ПАЭЗІЯ НАРОДАЎ СВЕТУ



# ГІЁМ АПАЛІНЭР



# ЗЯМНЫ АКІЯН



ГІЁМ АПАЛІНЭР

# ЗЯМНЫ АКІЯН

ВЫБРАНАЕ

*Пераклад з французскай мовы*
*Эдзі Агняцвет*

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1973

# ЗОРКА АПАЛІНЭРА

Людзі будучых дзён, хоць калі-нікалі
Ўспамінайце мяне: жыў паэт на зямлі,
Калі з тронаў ляцелі старчма каралі.
(З паэмы «Вандэм'ер»)

Апалінэр Гіём — сын Апалона. Імя, якое моцна вабіць людзей, улюбёных у сапраўдную паэзію.

Шлях паэта, лёс паэта быў нялёгкі, складаны. Былі фармалістычныя эксперыменты на пачатку творчасці, былі блуканні.

Але засталося другое — паэзія. І гэта — галоўнае.

Апалінэр. Наватар па сваёй сутнасці, па свайму духу. Ён адважна ламаў старыя паэтычныя каноны. Адкрыццё давалася цаной цяжкіх пошукаў.

Кнігі паэзіі «Бестыярый або Картэж Арфея», «Алкаголі», «Каліграмы» — адсюль ідзе рэалістычная традыцыя ў сучаснай французскай паэзіі.

...Цікавая радаслоўная паэта. Яго продкі — Кастравіцкія па лініі маці — паходзілі з Беларусі. Жылі яны ў маёнтку Дарашковічы, пад Навагрудкам і сябравалі з сям'ёй вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча.

Прабабцы Апалінэра — Людвісі Кастравіцкай — Міцкевіч прысвяціў верш «Матрос», дзе ёсць радкі:

Загінуць не можа краіна,
Дзе жонкі і дзевы такія!

Дзед паэта — Міхаіл-Апалінарый — дробнапамесны, збяднелы дваранін, штабс-капітан рускай арміі, быў чалавекам дэмакратычных, перадавых ідэалаў. Ён разам са сваімі братамі Юзэфам і Адамам прымаў удзел у паў-

станні 1863 года. Адзін брат быў высланы царскімі ўладамі ў Сібір, другі — у Арэнбург, Міхаілу-Апалінарыю ўдалося разам з сям'ёй уцячы ў Італію.

Будучы вялікі паэт Францыі нарадзіўся ў Рыме 26 жніўня 1880 г. Ён быў пазашлюбным сынам Ангелікі Кастравіцкай.

Амаль усё жыццё Апалінэр, як патомак рэвалюцыйнага эмігранта, не меў юрыдычных правоў. Толькі за восем дзён да ранення на фронце, 9 сакавіка 1916 г. ён атрымае французскае грамадзянства. Паэт і грамадзянін, які прынёс вялікую паэтычную славу Францыі, павінен быў сваёй крывёй (на фронт ён пайшоў добраахвотнікам) дабівацца юрыдычнага становішча ў грамадстве...

Першыя творы Апалінэра з'явіліся ў французскім друку ў 1901 г. пад сапраўдным прозвішчам — Вільгельм Кастравіцкі. Праз год, у сакавіку 1902 г. упершыню з'явіўся твор, падпісаны літаратурным імем — Апалінэр.

Юнацкія і маладыя гады паэта прайшлі ў беднасці, нястачы. Ён быў канторшчыкам, хатнім настаўнікам, фактычным аўтарам некаторых ананімных твораў. Ён працаваў на нейкага Энара і пісаў замест яго раман. Але гэта ўсё мала выратоўвала ад паўгалоднага існавання.

Дзякуючы сваёй маці, Апалінэр назаўсёды захаваў у сваім сэрцы любоў да Расіі, Польшчы і іншых славянскіх краін.

Маці паэта — А. Кастравіцкая ў 1899 г. жыла ў атэлі ў Парыжы пад рускім прозвішчам Вольгі Карпавай.

Некаторыя даследчыкі літаратуры сцвярджаюць, што дзед Апалінэра і бацька беларускага паэта Каруся Каганца (Казіміра Кастравіцкага) былі стрыечнымі братамі.

Першая кніга Апалінэра «Бестыярый або Картэж Арфея» была выдадзена ў Парыжы ў 1911 г. тыражом 120 экземпляраў.

Кожны верш з'яўляецца подпісам да малюнкаў мастака Рауля Дзюфі.

Некалі «бестыяры» — казачныя сярэдневяковыя кнігі пра жывёл — былі вельмі распаўсюджаны ў Францыі. «Картэж» або світа Арфея мае на ўвазе міфічнага паэта Арфея, які сваімі песнямі зачароўваў нават дзікіх звяроў.

У кароткіх вершах гэтай кнігі ёсць дасціпная, накшталт прыказкі ці частушкі, народная ацэнка маральных і палітычных катэгорый і разуменняў.

Сваю першую кнігу паэт прысвяціў французскаму пісьменніку Элеміру Буржу, аўтару рамана «Птушкі адлятаюць, кветкі вянуць». Герой рамана, рускі па паходжанні, змагаецца на баку парыжскіх камунараў. Гэта прысвячэнне паказальна для разумення палітычных ідэалаў Апалінэра.

Другая паэтычная кніга «Алкаголі» адкрываецца паэмай «Зона». Паэт нібы размаўляе сам з сабой: ён малюе шырокія карціны жыцця беднякоў, горкага лёсу эмігрантаў.

Зона Парыжа — рабочае прадмесце, кварталы, якія паэт супрацьстаўляе шыкоўным парыжскім вуліцам. І разам з тым «Зона» — трагедыйная аўтабіяграфія Апалінэра.

Заключны акорд паэмы гучыць як набат:

Бывай, бывай,
Сонца з перарэзаным горлам!

З гэтым пераклікаюцца смела наватарскія словы з паэмы «Вандэм'ер»:

Я — глотка Парыжа!

Глыбіня пачуццяў, шырыня абагульненняў, ярка публіцыстычныя вобразы гэтых дзвюх паэм сугучныя творам Уладзіміра Маякоўскага. Гэта — паэзія аднаго і таго ж размаху.

Кніга «Алкаголі» выйшла з друку ў 1913 г. Назву кнігі раскрываюць радкі з паэмы «Зона»: «І ты п'еш: як жыц-

цё сваё, п'еш алкаголь. Як гарэлка, цябе ап'яняе жыцця твайго боль».

У гэты зборнік уключаны вельмі эмацыянальныя, тонкія па сваіх пачуццях вершы з паэтычнай сюіты «Песня няшчаснага ў каханні». Яны з'яўляюцца лепшым узорам сусветнай любоўнай лірыкі

Тут жа змешчаны «Адказ запарожскіх казакоў канстанцінопальскаму султану». Верш напісаны смела, сакавіта, сапраўды ў казацкім, вольналюбівым духу. Ці ведаў Апалінэр, апрача фальклорнага варыянта «Перапіскі» запарожцаў з турэцкім султанам, аб існаванні вядомай карціны Рэпіна? Ёсць падставы думаць, што ведаў. Мастак закончыў сваю адзінаццацігадовую работу над «Запарожцамі» ў 1891 г. А ў 1900 г. у Парыжы адбылася сусветная мастацкая выстаўка, куды прыязджаў і сам Рэпін. Памянёны верш Апалінэра быў напісаны ў 1904 г.

Дарэчы, у 1904 г. Апалінэр пазнаёміўся ў Парыжы з мастаком Пікасо і пасябраваў з ім на ўсё жыццё. Апалінэр сам маляваў, пісаў артыкулы пра жывапіс, пра творчасць Пікасо і наогул вельмі цікавіўся навейшым мастацтвам.

У 1916 г. Пікасо, уражаны выглядам раненага на фронце Апалінэра, стварыў партрэт паэта: суровы твар, забінтаваная галава. Такога Апалінэра мастак бачыў упершыню. Паводле ўспамінаў сяброў, Апалінэр у жыцці быў вельмі вясёлы і дасціпны, да яго заўсёды цягнуліся людзі, ён быў у цэнтры шумных кампаній, дыскусій.

Цяжкае раненне зрабіла яго змрочным, тужлівым. «Смутак адной зоркі» — так пісаў паэт пра сябе.

У красавіку 1918 г. выйшла выдатная кніга міру і вайны «Каліграмы». У прысвячэнні Апалінэр зазначыў: «Памяці старэйшага з маіх сяброў, Рэнэ Даліза, які загінуў на полі Чэсці 7 мая 1917 г.».

Глыбока хвалюе палымяная кніга салдата-артылерыста, які прайшоў праз траншэі першай сусветнай вайны

і вынес адтуль нянавісць да яе жахаў і жорсткасцей. «Каліграмы» — гэта крык душы паэта.

У час другой сусветнай вайны паэзію Апалінэра ўзялі на ўзбраенне паэты-змагары французскага Супраціўлення.

Апалінэр сябраваў з людзьмі, якія цягнуліся да Расіі і любілі яе. Рэнэ Даліз, Андрэ Бійі, Макс Жакоб, Блез Сандрар, Андрэ Сальмон, Андрэ Рувэр — французскія пісьменнікі, якія бачылі ў Расіі ўвасабленне лепшых сваіх ідэалаў.

У жніўні 1917 г. быў надрукаваны верш Апалінэра «Да Луіджы Амаро». Там ёсць крылатыя словы:

Амаро, слухайце,
Расія спявае Марсельезу!

Наватарскія традыцыі Апалінэра прыняла, як эстафету, прагрэсіўная французская паэзія нашага часу. У вершы «Перамога» ён звяртаўся да свайго сучасніка:

Ты разумееш радасць — бачыць новае?

Для самога паэта ў гэтай радасці быў сэнс жыцця. Прызванне паэта — быць разведчыкам будучыні. «Мы, шукальнікі, імкнёмся невядомы край адкрыць» (верш «Рыжая красуня»).

«Зорка Апалінэра» — так назвалі французскія паэты яго лёс.

Гэта сапраўды яркая, нягаснучая зорка. І хоць паэт пражыў усяго толькі трыццаць восем гадоў (ён памёр 9 лістапада 1918 г.), яго паэзія доўга будзе свяціць людзям.

У 1966 г. французскі літаратурны часопіс «Еўропа» (лістапад — снежань, 1966) усе свае старонкі прысвяціў Апалінэру. Яго літаратурныя нашчадкі пішуць: «Ён — не маг, не прарок, але ён — прадвеснік. У словах, якія застануцца жыць у будучыні, у яго марах, мы, яго сыны, знаходзім наша зерне».

Паэзія Апалінэра і само жыццё паэта захапілі мяне незвычайна. Багата душэўных сіл было аддадзена рабоце над перакладамі.

Для яго паэзіі характэрны складаныя, нечаканыя вобразы.

Часам пачатак верша нагадвае дрымучую пушчу. Як прабіцца праз яе? І раптам урываецца нечаканы радок, бліснe крыніца, усё засвеціцца!

Апалінэр у 1912 г. адмовіўся ад знакаў прыпынку. Ён пісаў: «Знакі прыпынку — бескарысныя, бо сапраўдная пунктуацыя — гэта рытм і паўзы верша».

Але гэта неўласціва рускай, беларускай і наогул славянскай паэзіі. У беларускім перакладзе неабходна было ставіць знакі прыпынку, уважліва прыслухоўвацца да інтанацый апалінэраўскага верша.

Апалінэра нельга перакладаць адразу — верш за вершам. Кожны верш, кожная паэма патрабуюць ад перакладчыка напружанай думкі, пошукаў вобразаў, якія б зрабілі Апалінэра беларускім, але захавалі яго нацыянальны, французскі характар. Не ведаю, наколькі ўдалося гэта ажыццявіць...

Я працавала над кнігай тры гады і цяпер аддаю яе на твой строгі суд, дарагі чытач!

*Эдві Агняцвет*

## ЧАРАПАХА

Чароўнай Фракіяй я захапіўся шчыра,—
Звініць пад пальцамі маімі ліра.
І цягнуцца жывёлы, якія маюць слых,
Да ліры-чарапахі —
да выдумак маіх.

# КОНЬ

Мае настойлівыя мары сплятуцца з грываю тваёй,
Фурманам добрым лёс мой будзе на калясніцы залатой;
Нацягне лейцы зухавата верш-кур'ер
І з месца — ўся паэзія ў кар'ер.

# ТЫБЕЦКАЯ КАЗА

Тыбецкая шэрсць і руно залатое
Язону скруцілі жыццё маладое.
І ўсё гэта золата я не зраўняю
З касою дзяўчыны, якую кахаю.

# КОТКА

Я дому свайму пажадаць гатоў
Разважную жонку — без лішніх слоў,
Котку, што ціха на кніжках ляжыць,
На ўсе поры года — адданых сяброў,
Бо не магу без сяброў я жыць.

# ЛЕЎ

Няшчаснае стварэнне, леў!
Як каралі, ты змізарнеў.
І сёння толькі ў Гамбургу, здаецца,
Ты раскашэльваешся ў клетцы.

# ЗАЯЦ

Не будзь, як заяц той, юрлівы,
Ці палюбоўнік палахлівы.
Хай мозг працуе з сэрцам згодны
І, як зайчыха, будзе плодны.



Ангеліка Каставіцкая,
маці паэта. *1895.*



Міхаіл-Апалінарый Каstравіцкі,
дзед паэта. *1870*.

## ТРУСІК

Я з ім пазнаёміўся ўчора
І ўзяў бы, жывога, з ахвотай,
Але ён жыве ля чабору
У даліне Краіны Пяшчоты.

## ВЯРБЛЮД

Сваіх вярблюдаў чатырох
Наўючыўшы, дзівак дон Педра
Аб'ехаў свет і ў суш не спетраў.
І я б, дальбог, такое змог,
Каб меў вярблюдаў чатырох.

## МЫШ

Вы — мышы часу, дні мае прыгожыя,
Згрызаеце жыццё — і дзе ўсё дзелася...
Пражыў я дваццаць восем год, о божа мой!
На жаль, не так пражыў, як бы хацелася.

# СЛОН

Мой скарб — маё слова. Калі захачу,
Яно ў мяне — бівень слана з Малаі.
За тленны пурпур славы плачу
Мелодыяй слова — цана не малая!

# ВУСЕНЬ

Праца — і багацце, і Парнас.
Дык працуйце ж, бедныя паэты!
Вусень тчэ і стане ў пэўны час
Матыльком — шыкоўным франтам лета.

# МУХА

Нашы мухі песенькам паўночным
Навучыліся ў нарвежскіх шхерах
І зюзюкаць дзень і ноч ахвочы
Аб прынцэсах снежных і хімерах.

# БЛЫХА

Блохі, сябры, як і ўсе палюбоўніцы,
Кроў нашу п'юць прагавіта, напоўніцу.
Ты не адолееў кахання спакусу —
Будзь жа гатовы да свербу і ўкусу.

## КОНІК

Чуеце? Стракоча звонкі конік,
Кліча на абед святога Жана.
Хай мая паэзія ўжо сёння
Будзе пірам для людзей жаданым!

# ДЭЛЬФІН

Дэльфін гуляе ў цёплым моры,
Ды хвалі горкія, як гора.
Ці мне ўсміхнецца шчасце новае?
Ды не! Жыццё пакуль суровае!

# МЕДУЗА

Медузы, вы — няшчасныя галовы
З шавялюрамі ліловымі!
Вам падабаюцца штормы-буры,
І я ў захапленні ад вашай натуры.

# РАК

Без радасці жыццё, без асалоды,
Няўпэўненасць ва ўсім — хто ж будзе рад?
Як ракі-небаракі, мы заўсёды
Усё ў пяту, усё — назад, назад.

## КАРП

У брудных сажалках між асакі
Вы размнажаецеся два вякі —
Ідылія балотная, буколіка...
О, здыхата б на вас, на меланхолікаў!

# ГОЛУБ

Голуб, ты мудрым каханнем вядомы,
Зачаццe даў Хрысту самому.
І я закаханы ў Марыю адну,
Дапамажы мне жаніцца,
ану!

# ПАЎЛІН

Ідзе паўлін праз двор і сад,
І хвост дзівосны ўзняе над дарогай:
Здаваўся б прыгажэйшым ён намнога,
Калі б закрыў свой голы зад.

## ІБІС

Ведаю, кану я ў вечнасць адразу,
Мне не пазбегнуць магілы...
Навошта ж лацінская, мёртвая назва
Драчыку-птушцы з далёкага Ніла?

# ЗОНА

## (Паэма)

О Эйфель, наш пастыр — стальны чалавеча,
Нарэшце ад свету старога стаміўся і ты.
Раніцай гэтай гуртамі авечак
Бляюць над ракою масты.
Табе надакучыла жыць сярод рымлян
і грэкаў антычных,
Аўтамабіль тут здаецца істотай адсталай, апалітычнай.
Толькі рэлігія — гэта яшчэ ў навіну, яшчэ не за бортам,
Як і ангары нядаўна адкрытага аэрапорта.

Спее ў Еўропе пасеў хрысціянства — ніяк не даспее.
Вы, папа Пій, хоць дзесяты,
а самы сучасны з усіх еўрапеец.

Ты ж, на каго пазірае праз вокны ўвесь горад,
угнуў галаву —
Сорам ці грэх цябе мучыць? Ты не зайшоў у царкву.
Стаў каля тумбы, чытаеш афішы крыклівага свету.
Вось вам паэзія раніцы гэтай, а проза — ў газетах.
За дваццаць сантымаў — паўтома забойства, крымвышуку
і паліцэйскіх аблаў,
Здымкаў персон знакамітых і тысяча розных аб'яў.

Раніцай я тую вуліцу бачыў,
вось назву забыў у хадзьбе,
Сонца на ёй трапятала, быццам на меднай трубе.
Чуў, як сірэна правыла тры разы — пара на работу!

І запрагалася цяглае быдла ў ярмо па суботу:
Людзі фабрычныя, тэхперсанал
і красуні кантор — сакратаршы
У будні чатыры разы прабягаюць і кросы і маршы,
То на работу трушком, то спяшаць па сігналу «канчай!»
Полудзень з'есці ў кафэ — бутэрброд свой і чай —
І — цераз вуліцу зноў у ярмо, аж пакуль не дахаты.
Іх па дарозе са сцен атакуюць афішы, плакаты —
Клічуць, крычаць, спакушаюць і лаюцца ўслед,
Як папугаі.
І ўсё-такі, гэта — мой свет.
Я люблю тую вуліцу абаяльную, індустрыяльную,
Дзесьці паміж Омап-Т'евілем і авеню дэ Тэрна.
У Парыжы яна
Шуміць ад відна да відна.
Вось яна, маладая,
ты ж толькі ва ўзросце дзіцяці,
У блакітнае з белым прыбрала цябе твая маці.
Ты — набожны, пачуццяў душа твая поўная,
Разам з сябрам Далізам Рэнэ
захапляешся помпай царкоўнаю.
Вечар. Дзевяць гадзін. Ледзь сінее газніца.
З дартуара пабеглі крадком
да світання ў капліцы маліцца,
І тады глыбінёй аметыста — адвечнай, яскравай,
Загарыцца ў тваім уяўленні хрыстова слава.

Гэта — кветка лілеі, паходні агонь непагасны,
Гэта — светач, і ў светача рыжага воласу пасмы,
Гэта — сын бледнатвары няўцешнай пакутніцы-маці,
Гэта — вечназялёнае дрэва ўсіх літургій і пацер,
Гэта — гонару, вечнасці мера па роду і віду,
Гэта — зорка шасціканцавая Давіда;
Гэта — бог, што ў пятніцу памірае,
А ў нядзелю ўваскрасае;

Гэта — той наш Хрыстос,
што ўзнімаецца ў неба бязмежную сінь,
Пабіваючы ўсе заваёвы вяршынь і вышынь.

Зрэнка вока — Хрыстос...
О дваццатая зрэнка — наш век!
Стаўшы птушкай, вышэй за Хрыста узляціць
твой акрылены сын — Чалавек.

Д'яблы з пякельнага кодла падымуць галовы, як змеі,
Засыкаюць: «Ён пераймае ўсё
ў Шымана-мага з былой Іудзеі!»
Чэрці закрэкчуць, як жабы вясною на лёдзе:
«Раскрыжаваць яго трэба!
На крыж! Крылы ж украў гэты злодзей!»

З лямантам рынуць анёлы ў вышыні
да першага там летуна:
«Вось табе й на!»
Ікар і Янох, і Ілья, Апалоній з Ціяна
Падлятаюць да першага аэраплана.
Праўда, часам яны віражыруюць: трэба ж дарогу
Даць і такім, што святыя дары перакідваюць богу.

Вось, не залопаўшы крыллем, зніжаецца — сеў
самалёт.
Ластаўкі спуджаны, тысячы іх уздымаюцца ў лёт,
З карканнем-граем чароды варон пакідаюць вярбу,
З Афрыкі — ібіс пяшэчкам дадому, за ім — марабу.

Рох крывавжэрны, апеты на ліры і ў рытмах тамтама,
Кіпцямі сцяў галаву сама першую — чэрап Адама.
Клёкат у небе — арліны там злёт, пераклічка,
Пырскае блошкай з Амерыкі і калібры-невялічка;

Доўгія, зграбныя пі-і з Кітая вяртаюцца —
Крылца ж адно,
і яны толькі ў пары ў паветра ўзнімаюцца.

Нарэшце і голуб — дух цноты з аліваю міру
Пад пільнай аховай паўліна і птушкі пад назваю — ліра.
Фенікс шугнуў, як касцёр, і на небе далёка і блізка
Зоркі асляплі — засыпаў жа вочы ім пыскам.
Нават сірэны, пакінуўшы свой небяспечны праліў,
Тройцай плывуць і спяваюць чароўны матыў.

Фенікс, арлы і пі-і-аднакрылкі з Кітая —
Кожны з крылатай машынай зрадніцца жадае...

Вось ты ў Парыжы. Натоўп цябе сціснуў,
і сам ты не свой,
Статак аўтобусаў мыкае побач з табой.
Смутак кахання пятлёй тваю глотку сціскае,
Быццам ніхто ўжо цябе не прыгорне і не пакахае.
Ты калі б жыў у мінулым стагоддзі,—
у манастыр бы пайшоў.
А сёння, ў хвіліну цяжкую,
не да напышлівых слоў.
Ты з сябе насміхаешся:
Як пякельны агонь, смех патрэсквае твой,—
Іскры смеху пазалацілі
Жыцця твайго зрэбны сувой;
Ён вісіць, той сувой, у музеі халодным і змрочным,
Часам глянуць на гэту рэліквію мы,
пілігрымы журботныя, крочым.

Ты цяпер у Парыжы.
Тут жанчын непрыстойных сустрэнеш нямала.
Так было (не хачу ўспамінаць!),
калі ў нас прыгажосць заняпала.

Нотр-Дам у аглях ліхаманкавых
бачыў я ў Шартры,
І крывёю сваёй Сакрэ-Кёр
залівае мяне там на Манмартры;

Я хварэю тады, калі чую шчаслівыя словы
(не трэба, не трэба!),
Ад кахання пакутую, як ад хваробы ганебнай.
Вобраз гэты стаў смуткам, бяссонніцай,
горам тваім,
Ён заўсёды з табою, і заўсёды ты з ім.

Вось на беразе мора Міжземнага
сустракаеш ты сонца ўзыход,
Тут лімонныя дрэвы цвітуць круглы год.
Ты плывеш на чаўне, і сябры твае рады, як дзеці.
Першы з Ніццы, з Ментоны — другі,
ну а з Турбіі — трэці.
Раптам жах ахапіў: асьмінога мы ўбачылі
ў бездані сіняй.
Рыба — вобраз збавіцеля — вынырнула з багавіння.

А сягоння, паэт, ты ўжо ў доме заезным
жывеш каля Прагі,
На стале тваім ружа,
ты шчаслівы ад весняе прагі,
Адрываешся ты ад сваёй пісаніны, ад прозы,
І на ружу глядзіш — ад пачуццяў сваіх нецвярозы.

Ты жахнуўся ў саборы святога Віта:
на агатах скакаў твой цень,
Смуткаваў ты няўцешна ў той дзень.
Ты нагадваеш Лазара — боскага ўгодніка, мой галубок.

Глянь ты — стрэлкі гадзінніка
ў даўнім яўрэйскім квартале пайшлі ў адваротны бок,—

І жыццё тваё гэтак жа сама назад павярнула павольна;
Падыміся ў Градчаны і ўслухайся вечарам вольным,
Як там чэхі спяваюць — піўніцы аж глухнуць ад хору!

Аб Марселі ўспаміны твае — кавуны, іх там цэлыя горы.
Вось у Кобленцы ты — у атэлі вядомым,
Ты у Рыме, пад дрэвам японскім усеўся, як дома.

Амстэрдам памятаеш? Там шчасце к табе пераходнае
танна зусім перапала,
А яна ж за студэнціка з Лейдэна
замуж пайсці абяцала.
У бядняцкім квартале маленькі пакойчык
здавалі нам бедныя людзі,
Там правёў ты тры дні і тры ночы
і гэтулькі потым у Гудзе.

Ты ў Парыжы пад следствам.
Ну дзе вы падобнае чулі?
Як злачынцу якога, паэта ў кутузцы замкнулі!

Пабываў ты ў вандроўках тужлівых
і радасна-простых
Да таго, як уцяміў прыкметы няпраўды і ўзросту.

Я і ў дваццаць і ў трыццаць гадоў у пакутах кахаў,
Жыў, нібыта вар'ят, час дарэмна губляў.

Я на рукі свае не адважуся глянуць.
Рыдаць я гатоў —
Па сабе, па каханай,
Па ўсім, што палохала так на развілках гадоў!

Аглядаеш з тугой эмігрантаў —
былі ж яны калісь людзьмі:

Богу моляцца тут,
а жанчыны з запазухі кормяць малечаў грудзьмі.
Беспрацоўная армія, танны заморскі тавар.
Затхлы пах і смурод напаўняюць вакзал Сен-Лазар;
Яны верацъ у зорку сваю,
як біблейскія магі, у ласку нябёс,
Спадзяюцца найбольш зарабіць на зямлі Аргенціны,
І вярнуцца ў краіну сваю, калі толькі злітуецца лёс.

Вось сям'я перавозіць падабенства чырвонай пярыны,
Запаветны свой скарб на далейшы прыход у Парыж.
А пярына, як нашы жаданні, адзін толькі прывід-фетыш.

Частка тых эмігрантаў асядзе і спыніцца тут,
Будуць жыць у трушчобах, спазнаўшы ўсю горыч пакут.
Я іх часта тут бачыў на вуліцы ўвечары;
гэтыя арыстакраты
Выпаўзаюць з каморак падыхаць паветрам
І сядзяць, як на шахматнай дошцы квадраты.

Тут і крамаў яўрэйскіх нямала;
і у крамах між кіпаў тавару
Бачыш жонак купцоў ў шыньёнах, худых, бледнатварых.

Ты стаіш між гаротных
за стойкаю бара паганага,
П'еш халодную каву гатунку таннага.
Ноччу ты ўжо ў віры-гушчары рэстарана,
Дзе жанчыны — жанчынамі і не такія ўжо злосныя —
Дапякаюць і ім, бестурботным, турботы розныя.
Нават з-за самай брыдкай пакутуе яе каханы.

Вось адна з іх сержанта дачка,
на востраве Джэрсі ён служыць,

Рук яе я не бачыў — я гладзіў іх —
патрэскаліся ад сцюжы;

Цела — калісьці на ім загаіліся раны:
Шрамы, рубцы, па спіне ўперамежку.
Шкада мне гэтай дзяўчыны са штучнай усмешкай.

Ты ў адзіноцтве. І ўжо набліжаецца ранак.
Малочніцы звоняць бітонамі: мокра на вуліцы, слізка.

Ноч незаўважна пайшла, як з пасцелі метыска,
Смуглая скура, прычоска кудравая, чорная —
Гэта Фердзіна ўпартая ці Леа пакорная.

І ты п'еш, як жыццё сваё, п'еш алкаголь.
І як гарэлка, цябе ап'яняе жыцця твайго боль.

Пеша пляцешся дадому. Маўклівае неба чарнее.
Спіш у кампаніі ідалаў, што з Акіяніі і Гвінеі.
Усе яны, як і Хрыстос,—
толькі іншае формы аблічча,

Богі цьмяных надзей,
богі без арэола вялічча.

Бывай, бывай,
Сонца з перарэзаным горлам!

## МОСТ МІРАБО

Пад мостам Мірабо струменіць Сена,
Нібы каханне наша.
Запомніць трэба, што бядзе на змену
Прыходзіць радасць вокамгненна.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Рука ў руцэ, мы твар у твар стаялі,
Глядзелі вочы ў вочы.
Пад мостам нашых рук рачныя хвалі
Ад позіркаў бясконцых стомлена змаўкалі.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Каханне, як рака, плыве далёка,
Мінае і сплывае.
О, як жыццё ідзе марудным крокам!
Адна надзея ўзнялася высока.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Знікаюць дні і тыдні ўсе таемна.
Ні час і ні каханне
не вернуцца назад...

Пад мостам Мірабо адна нязменна
    Струменіць Сена.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

# ПЕСНЯ НЯШЧАСНАГА У КАХАННІ

* * *

Багата загінула розных багоў.
Гэта над імі плачуць ніцыя лозы.
Памерлі:
                і Пан, і Хрыстос, і любоў...
Коткі мяўкаюць на двары у знямозе,
І сам я ў Парыжы заплакаць гатоў.

Я ж ведаў: песні ў гонар каралеў,—
Гадоў маіх мінулых нараканні;
І гімн рабоў, як чалавечы гнеў;
Я для сірэн прывабных слухаў спеў,
Я ведаў спеў няшчаснага ў каханні...

Каханне памерла. Дрыжу я, забыты,
Гляджу на куміраў прыгожых ізноў:
Я рысы каханай маёй тут знайшоў,
Над ёй маўзалей збудаваўшы нібыта,
Застаўся адданы, тужлівы, разбіты.

Аддаңы, як пёс гаспадарскі...
                                        А можа,
Я верны,
            як плюшч — ствалу,
                                        як колас — полю,
Як хлопцы-казакі з Запарожжа,

У п'янстве і ў бойках набожныя,
Верныя стэпу свайму і прыволлю.

«Скарыцеся,— так напісаў ім султан,—
Паўмесяца — знак мой
на шыю надзеньце!
Гэта — ярмо найлепшае ў свеце.
Хлопцы-казакі,
прыходзьце ў мой стан,
Я ўладар ваш,
я усемагутны пан.

Як верных слугаў прымаю вас».
З рогату ўсе пакаціліся разам:
Вось навіна:
«Ашчасліві ты нас!»
І каля свечкі —
фраза за фразай —
Яны напісалі султану адказ.

# АДКАЗ ЗАПАРОЖСКІХ КАЗАКОЎ КАНСТАНЦІНОПАЛЬСКАМУ СУЛТАНУ

Варава — злачынец меншы, чым ты.
Шайтан-Люцыпер і ты — браты.
Выкармлены, як паганцы-анёлы,
На брудзе, памыях,—
ты згінеш, назола,
Справіш без нас свой шабаш вясёлы!

Салонікаў чорных тухлая рыба,
Ты стаў слепавокі,
прагніў твой нос.
Ты — сон жахлівы.
Не ведаеш хіба,
Што маці тваю корчыў дзікі панос —
І ты нарадзіўся ад моцнага згібу.

Падолля любімага пашага
кат,
У больках, струпах тваё цела дурное.
Свінячы лыч, кабыліны зад,
Усе твае скарбы хай пойдуць на тое,
Каб ты аплаціў свае лекі, гад!

* * *

О Млечны Шлях — ты светлы брат
Крыніц празрыстых Ханаана.
Мы — целы бедных закаханых,
Мы — весляры, плывём дарогай страт
Да зор, схаваных у туманах.

Нас дэман цягне ў карагод,
І крудзіць нас,
вядзе за рукі,
І скача чалавечы род.
Пачуўшы скрыпак згубленыя гукі.
Разявіла прадонне чорны рот.

О доля-лёс шалёных каралёў,
Цябе дагэтуль мы не зразумелі.
І для дрыжачых зор я не знаходжу слоў,
Як для жанчын хлуслівых у пасцелі!
Ваш ложак,
як пустыня,
поўны цьмяных сноў.

Прынц-рэгент Луітпольд стары,
Ты апякун манархаў — двух вар'ятаў.
Няўжо не плачаш да зары,
Калі трапечуць светлячкі ўгары,
А ты згадаў свайго кахання свята?

Над светлым возерам, між дрэў,
Палац застаўся без прынцэсы;
Там весні вецер зашумеў,
Там човен з баркаролай-песняй,
Там лебедзя апошні спеў.

Аднойчы ў хвалях тых сівых
Кароль тутэйшы утапіўся.
Як выплыў ён з глыбінь сваіх,—
Зірнуў на свет і зноў забыўся,
І потым назаўсёды сціх.

Ты, чэрвень, пальцы ўсе мае
Спаліў пякучым сонцам-лірай.
Парыж са мною трызніць і пяе,
Ён закруціў мяне ў шалёным віры,
Але памерці сілы не дае!

Нядзеля нудная не мае межаў,
Катрынкі енчаць па дварах,
Гірлянды кветак, як мярэжы,
З балконаў звіслі, мне на страх,
Як галава пізанскай вежы.

Увечары Парыж смакуе джын —
Увесь ад электрычнасці палае.
З зялёнымі агнямі уздоўж спін,
Імчацца,
як шалёныя,
трамваі —
Па рэйках пішуць музыку машын.

Кафэ распухла ўсё ад дыму,
Крычыць да хрыпаты цыганскі хор,—
Каханне для цябе,
любімай,
Яны ўслаўляюць,
як юнак-танцор,
Як я ўслаўляю,
з гарачымі вачыма...

Я ж ведаў:
песні ў гонар каралеў —
Гадоў маіх мінулых нараканні;
І гімн рабоў, як чалавечы гнеў.
Я для сірэн прывабных слухаў спеў,
Я ведаў спеў няшчаснага ў каханні.










Вокладкі кніг Г. Апалінэра:
«Бестыярый або Картэж Арфея», «Алкаголі»,
«Каліграмы. Вершы Міру і Вайны».



Навагрудчына. Зямля продкаў... *Фота Ул. Калесніка.*

# АННІ

Недалёка ад Тэхаса,
На шляху да Гальвестона,
Есць вялікі сад, там ружы
Незвычайныя растуць.
І здаецца ружай віла —
Самай водарнай і мілай.

Часта там адна жанчына
Усё гуляе аж да ночы.
Як прайду я — глянем шчыра
Мы адно другому ў вочы.

Менанітка дама тая:
Гузікаў не прызнае.
І нямашака ў яе
Ні бутона ў строгім сэрцы.
Сам я гузікі губляю —
Мы з той дамай — аднаверцы...

## МАРЫЗІБІЛЬ

На вуліцах Кёльна хадзіла,
Гуляла яна да відна,
Усім усміхалася міла,
Сядзела за пляшкай віна
На тумбе карчомнай яна.

Сама галадала, а грошы
Свайму аддавала «бошу».
А той сутэнёр часнаком
Смярдзеў і, як ехаў з Фармозы,
Зайшоў у публічны дом
І вывез дзяўчыну, раскосы.

Я ведаю рознага лёсу людзей.
Не ўсіх зразумеў я, праверыў:
Той — мёртвага лісця цішэй,
А полымя тоіцца ў зрэнках вачэй,
А сэрца — адкрытыя дзверы.

## ВЕРШ,
## ПРАЧЫТАНЫ НА ВЯСЕЛЛІ
## АНДРЭ САЛЬМОНА
## 13 ЛІПЕНЯ 1909 г.

Я ўбачыў з самай раніцы штандары,
 але нікому не сказаў:
Вось гэта вопратка жабрацтва,
Тут дэмакратыя хавае сарамліва боль,
Тут воля вольная.
 Урэшце, бяром мы прыклад з лісця;
О сіла раслінная,— ты адзіная
 свабодная на ўсёй зямлі!

Я не сказаў: будынкі запалалі
Таму, што мы сяброў праводзім —
 яны ж не вернуцца назад.
Я не прыкмеціў:
 ні мазольных рук,
 якія заўтра будуць працаваць на нас,
Ні тых, павешаных, якія не змаглі ў жыцці
 дабіцца выгады;
Ні тых, хто абнаўляе свет, ізноў Бастылію штурмуе.

Я веру,—
 свет пераўтвараюць тыя,
 хто ад паэзіі ідзе.

Аздобіўся штандарамі Парыж:
Мой добры друг Андрэ Сальмон
 спраўляе слаўнае вяселле.

З ім пазнаёміліся мы ў шынку паскудным
У дні свайго юнацтва;
Апранутыя бедна,
курылі мы ўдваіх, чакаючы зары.
Мы закаханыя былі ў адны і тыя ж словы,
чый сэнс змяніць патрэбна.
Падманутыя дзеці бедныя! Мы не маглі
Смяяцца так, як у маленстве.
І стол, і шклянкі дзве пустыя на нас глядзелі
Апошнім позіркам Арфея паміраючага...

Упалі шклянкі і разбіліся —
Мы пачалі смяяцца,
І прэч пайшлі, шукальнікі пагібелі,
Перасякаючы дарогі, вуліцы,
краіны.

Я зноў сустрэў яго на беразе ракі:
Там белыя гарлачыкі гайдалі
Афелію-тапельніцу, а ён
Стаяў між бледных Гамлетаў, самотны,
І ўмела выцінаў на флейце матыў якісь вар'яцкі.
Я потым бачыў:
ён сядзеў ля паміраўшага мужыка
і суцяшаў яго;

Ён захапляўся снегам зазімка,
як голым жаночым целам;
Я чуў: ён на ўсё быў гатовы
за гонар слоў любімых,
Ад якіх святлее твар дзіцячы.
Таму я не маўчу!
Я ўспамінаю — будучыню заклікаю:
Мой добры друг Андрэ Сальмон
спраўляе слаўнае вяселле.

Дык будзем весяліцца разам!
Сяброўства наша — светлая рака —
Багаты плён нам абяцае:
Прырэчная зямля прыносіць людзям ураджай.
Дык будзем весяліцца разам!
І не таму, што шклянкі нашы
Ізноў глядзяць на нас апошнім позіркам Арфея;
І не таму, што выраслі мы ўсе да неба
І можна зблытаць нашы вочы з зорамі;
І не таму, што сцягі ў вокнах палымнеюць
У грамадзян, якія сто гадоў здаволены жыццём
І драбязу сваю абараняюць;
І не таму, што нам дала Паэзія правы:
Мы можам словамі стварыць
і разбурыць сусвет;
І не таму, што плакаць мы умеем
І не здаёмся смешнымі нікому;
І не таму, што курым, п'ём, смяёмся, як калісьці!

Мы будзем весяліцца, бо каханне
Агнём кіруе і паэтамі,
Каханне напаўняе, як святло,
Прастор паміж планетамі сусвету.
Каханне загадала:
мой добры друг Андрэ Сальмон
Спраўляе слаўнае вяселле!



Сяброўскія шаржы Пікасо:
Г. Апалінэр у выглядзе папы рымскага,
Геракла і французскага акадэміка.

## ВАНДРОЎНЫЯ АКРАБАТЫ

*Луі Дзюмуру*

Міма карчомак, заезных дамоў
Ідуць акрабаты ля хат і садоў.
Праз вёскі, дзе царкваў нідзе не відаць,
Ідуць балаганшчыкі, бубны грымяць.

І дзеці насустрач імчацца да іх,
І разгараюцца вочы ў малых.
Ідуць акрабаты — лады не ў лады,
Ім кожнае дрэва падносіць плады.

На твары — усмешка, цяжар — на плячы,
Яны барабаны нясуць, абручы.
І малпа з мядзведзем выходзяць у час —
Збіраць медзякі за вясёлы паказ.

# ЭМІГРАНТ З ЛЭНДАР-РОУД

*Андрэ Бійі*

Ён пры капелюшы, як паўнапраўны пан,
Прыдворнаму краўцу прынёс стары кафтан.
А камерсант-кравец, падаючы абновы,
Быў сам, як манекен той безгаловы.

Натоўп ішоў, і цені ўслед ішлі —
Спляліся і зліліся без кахання.
І рукі, ўзнятыя да сонечнага ззяння,
Як птахі белыя, зрываліся з зямлі.

Я заўтра адплыву на караблі магічным,
З Амерыкі ніколі не вярнуся я сюды.
Я грошы зараблю у прэрыях лірычных.
На вуліцах, што я любіў, змятуць мае сляды.

Вярнуцца хочацца індыйскаму салдату!
А я? Тут кожны мой плявок на біржы прадаюць.
У новае апранены, хачу пад тыя шаты,
Дзе птушкі ціхія і мне заснуць дадуць.

Што манекенам? Распрануцца ім не брыдка,
Прымерку зробяць на любы манер.
У фраку лорда, купленым са скідкай,
Ён проста як сапраўдны мільянер.

А з вуліцы гады
Глядзелі на вітрыну,

На чорных манекенаў
І ў ланцугах
Знікалі назаўжды.

Нудой папхаўшы год, брылі ўдаўцамі дні,
Як тыдні чорных пятніц — да магілы,
І хмары чорна-белыя грымелі ў вышыні,
Нібы там жонка д'ябла мешалкай лупіла.

У порт ішоў праз лістапад. Апалаю
Лістотай пірсы высланіся ўсе.
Стаміўся. Чамадан узнёс на палубу
і сам прысеў.

З пагрозай прыхаванай дзьмуў вецер з акіяна
І валасы вільготным пацалункам цалаваў.
Вось плача эмігрант, ахутаны туманам,
Другі з малітвай на калені ўпаў.

Глядзеў ён доўга: берагі там паміралі,
Караблікі дзіцячыя плылі за небасхіл.
Букет маленькі кінуў эмігрант на хвалі —
І акіян расцвіў, набраўся весніх сіл.

Хай той букет плыве, нібыта слава,
Да іншых позіркаў, у іншы акіян!
І ў памяці яго мінулае ўставала:
Яго жыцця панурага дыван
Нядоля-мачыха саткала.

Васал, ён вырашыў з цянётаў сюзерэна
Уцячы і на жыццё махнуў рукой.
Як дож, звянчаўся з хваляю марской
Пад галашэнне сённяшняй сірэны.

О плынь марская, хлынь насустрач ночы!
Здалёку хіжым позіркам на трупы сумных дзён
Глядзяць да раніцы акул пражэрных вочы,
А мора ўсё гудзе і хвалямі клякоча,
Глынаючы і скаргі і праклён.

## РЭЙНСКАЯ НОЧ

Мой келіх поўны, і віно, як полымя трапеча...
Услухайцеся: песню лодачнік пяе,
Як сем наяд пад месяцам, смуткуючы аб нечым,
Сушылі валасы зялёныя свае.

Прыходзьце да мяне, кружыцеся на славу!
Не! Болей не хачу я песні слухаць той!
Прыводзьце да мяне зямных дзяўчат бялявых,
З заплеценай касой, з усмешкаю жывой!

О Рэйн, о Рэйн! П'еш золата начэй,
ты месяц увабраў.
Смуткуе песня, і варожаць чараўніцы,
І косы свецяцца святлом падводных траў.
О Рэйн, о Рэйн, ты п'яны ўшчэнт!
Віно іскрыцца.

Разбіўся келіх мой, смех грымнуў навальніцай...

# МАЙ

Пад ветразем па Рэйне май прыгожы плыў,
З узгорка на яго жанчыны пазіралі.
І лёгка човен плыў, і гаманілі хвалі.
Хто ж вербы ніцыя схіліў і засмуціў?

Лагодны ветрык дрэвы калыхаў,
І асыпаліся пялёсткі з вішань майскіх,
Хавалася пяшчота ў белых красках,
Нібы ў павеках той,
якую я кахаў.

На беразе разлёгся пры вярбе
Цыганскі табар з малпай і мядзведзем.
І раптам прагучаў сігнал атакі недзе
Над вінаграднікам на палкавой трубе.

Хоць май, прыгожы май руіны засланіў
Квітненнем ружаў, вінаградных лозаў.
А вецер з Рэйна налятаў з пагрозай,
Трысцё дрыготнае і кветкі каламуціў.

## ЗВАНЫ

Ты чуеш, мой цыган?
Званы
На цэлы звоняць свет.
Няўжо дазналіся яны
пра наш сакрэт?

Званіца бачыла ў туман —
Ён кепска нас хаваў.
Званы раскажуць,
як цыган
мяне кахаў.

Суседзі заўтра на двары
Зазвоняць як адзін:
І пекар з жонкай, і Катрын,
Анры, Кіпрэн, Мары.

Смяяцца будуць, як прайду,—
Шукаць маіх заган...
Я пакахала на бяду,
Ад слёз памру, цыган!

# ЛАРЭЛЕЯ

*Жану Сэў*

Вядзьмарка бялявая, верце не верце,
Прынадзіла ўсіх, закаханых да смерці.

Епіскап пад суд чараўніцу аддаў,
Хоць сам ёй грахі за красу дараваў.

«Прыгожыя вочы твае, Ларэлея!
Чаму там вядзьмарства тваё палымнее?»

«Стамілася жыць я! Мой позірк пракляты —
Хто глянуў мне ў вочы, той трапіў за краты.
Мой позірк — агонь... О епіскап стары,
Спаліце вядзьмарства маё на кастры!»

«Я сам закахаўся ў красуню-дзяўчыну.
Хай іншыя судзяць, я сам ужо гіну!»

«Епіскап, не трэба смяяцца вам, не!
Маліцеся богу, карайце мяне!

Мой любы паехаў далёка адгэтуль...
Мяне праганіце з нялюбага свету!
Пакутуе сэрца: я хутка згару.
І думка адна мяне точыць: памру!

Пакутуе сэрца маё з той хвіліны,
Калі мяне любы пакінуў, пакінуў».

Трох рыцараў кліча епіскап: «Хутчэй
Схавайце яе ў манастыр ад людзей!

Прэч, Лор-шаляніца, твой позірк — прыстрашка!
У чорным адзенні ты станеш манашкай».

Вядуць Ларэлею. Ідуць і маўчаць.
А вочы яе, як свяцілы, гараць:

«Дазвольце мне, рыцары, ўгору падняцца,
Хачу развітацца я з родным палацам.
Хачу, бы ў люстэрка, у Рэйн пазірнуць
Мяне ж, маладую, навекі замкнуць!»

Пад ветрам каса над скалою бялее,
А рыцары ў страху крычаць: «Ларэлея!»

«На Рэйне мой мілы плыве на чаўне,
Ён там зачакаўся,
ён кліча мяне.
Як лёгка на сэрцы! Каханы — са мной».
І — ўніз галавой са скалы навіснай.

Змагла яшчэ змеціць у плыні ракі
І сонца касы, і вачэй васількі.

## 1909

Дама насіла сукенку
З турэцкім узорам;
Туніка, вышытая золатам,
Была ў гармоніі
З квяцістым шалем,
Закінутым за плячо.

Вочы яе гарэлі, быццам у херувіма,
Калі яна рагатала. Ах, як яна рагатала!
На твары яе паўтараліся колеры Францыі:
Вочы блакітныя, белыя зубы
І ярка-чырвоныя губы.
На твары яе паўтараліся колеры Францыі.

Па шыі паўкругам ішло дэкальтэ,
à la Rècamier *, нібы вежа, прычоска,
А зграбныя поўныя рукі
аголены да плячэй.

Калі ж гэта поўнач празвоняць куранты?

Гэта дама ў сукенцы з турэцкім узорам,
З круглым дэкальтэ,
І ў туніцы, вышытай золатам,
Насіла карону локанаў
З абручыкам колеру золата.

---

* à la Rècamier *(фр.)* — па модзе Рэкам'е.




Што ён убачыць у туманнай Англіі?..
Г. Апалінэр (справа) на палубе карабля. *1912.*

На ножках маленькіх — туфелькі
З бліскучаю спражкай.
Такая багіня, што нават
І страшна было б закахацца!

Любіў я жанчын суровых у завадскіх кварталах,
Штодня там на свет прыбываюць істоты,
Якіх яшчэ свет не бачыў:
Становіцца сталь іх плоццю, полымя — іх мазгамі.

О так, любіў я спрытнае іх племя,
Людзей-машын. Іх шык — пустая пена.
А дамы гэтай прыгажосць
У сэрцы выклікала толькі боязь!

# У ТУРМЕ САНТЭ

## I

У камеру вядуць мяне,
Распранутага дагала.
Злавесны голас, нібы ў сне,
Сіпіць:
— Гіём, бяда прыйшла!

І я, разлучаны з зарой,
У магіле цёмнай і сырой.
Бывай, сяброўскі карагод,
Бывай, каханне юных год!

## II

Не, я цяпер не той зусім,
Гэй, асцярожна!
Я тут пад нумарам сваім —
Астрожнік.

Пракралася ж і сонца ўдзень
Праз краты звонку,
І скача зайчыкам прамень
Мне на старонку.

Яму, гарэзу, і няўцям
З яго праменнем,
Што некаму тужліва там
У сутарэнні.

## III

У нейкай яме, як мядзведзь,
Я пасля ночы крочу-крочу.
Я сёння дыхаю ледзь-ледзь.
Ланцуг на небе. Дзень сірочы.
У нейкай яме, як мядзведзь,
Я пасля ночы крочу-крочу.

А побач з камерай маёй
Крыніца зазвініць раптоўна:
Наглядчык пройдзе і парой
Ключамі бразгане жартоўна.
І побач з камерай маёй
Крыніца зазвініць раптоўна.

## IV

Як горка смуткую я ў сценах глухіх —
Між колераў бледных тых, шэрых!
Асенняя муха — чытачка маіх
Няроўных радкоў на паперы.

Чаму ты мне, бог, даў пакутлівы лёс,
Дзе рай твой зямны абяцаны?
Дзе літасць твая да прытоеных слёз,
Да лаўкі маёй акаванай?

О, колькі тут сэрцаў смуткуе, павер,
Я кожнае з іх прыкмячаю.
Ты злітуйся, божа! Мой розум цяпер
Зняможаны ад тугі і адчаю.

## V

Як тут павольна дзень ідзе,
Нібы чыёсьці пахаванне!..

І дзень, праведзены ў бядзе,
Аплакваць будзеш з адчуваннем,
Што вельмі хутка час да скону йдзе.

## VI

Я слухаю горада гул за сцяной,
Астрожнік, хаваючы слёзы.
Варожае неба вісіць нада мной —
З пагардай глядзіць і пагрозай.

Вось дзень адышоў, як наглядчык, прыціх,
Газніца мігае з пагрозай.
У камеры душнай мы толькі ўтраіх —
Газніца, і я, і мой розум.

## АТЭЛІ

Тут пакоі — удовы.
Сам жыві-памірай!
Нехта з'явіцца новы,—
Плату ўперад давай!

Гаспадар у трывозе,—
Ці заплацяць паны?
Я кручуся ў знямозе,
Як ваўчок завадны.

Шум фіякраў — аж млосна!
А сусед мой, лайдак,
Смаліць востры, нязносны
Той англійскі табак.

Ён рагоча, кульгае,
Ла Вальера двайнік!
І да ранку мігае
Мой пакутнік-начнік.

І ўсе людзі ў атэлі,
Спрод тлуму таго,
Вавілон зразумелі
З мовай дзікай яго.

Нашы дзверы зачынім!
Кожны ўспомніць пры тым
Аб адзінай жанчыне,
Аб каханні сваім.

# ВАНДЭМ'ЕР

## (З паэмы)

Людзі будучых дзён, калі-нікалі
Успамінайце мяне: жыў паэт на зямлі,
Калі з тронаў ляцелі старчма каралі.
Паміралі яны у маўклівай журбе,
Але веліч захоўвалі ўсё ж пры сабе.

Ты — дзівосны у верасні, горад Парыж!
Ты паміж вінаграднікаў ночы стаіш:
Вінаградзіны-зоры павіслі ўгары,
Іх нястомна дзяўбуць аж да самай зары
Ап'янелыя птушкі майго захаплення.

Я па цёмных завулках хадзіў у натхненні.
Я пачуў нечы голас, як вяртаўся дадому,—
Ён спяваў, урачысты,
то сціхаў, невядомы,
Каб да Сены дайшло гэтай ноччу вячыстай
Рэха ўсіх галасоў — далёкіх і чыстых.

Доўга слухаў я розныя спевы і крыкі,
Што Парыж абудзіў сваёй песняй вялікай.

Песень Францыі прагну.
Прагну песень народаў —
Хай у глотку маю
явы льюцца заўсёды!

П'яны-п'яны Парыж я адчуў і убачыў —
Вінаград ён збіраў самы спелы і смачны,
І спявалі там звонка
Вінаградныя гронкі.

Рэйн стары адгукнуўся, плыў, як водгулле, Ван:
Слухай песні, Парыж, спеў сваіх грамадзян!
Тыя гронкі, што сонца калісь нарадзіла,
Мы гатовы прынесці ў ахвяру табе.
Мы нясём табе розум, і муры, і магілы,
Непачуты табою крык дзяцей у калысках,
Мы прыносім табе рэкі думак іскрыстых,
Мы працягваем рукі ў парыве бязмежным,
Быццам доўгія рукі спяваючых вежаў.

Розум гібкі наш звязаны з іншым жыццём,
Ён хавае, як дзверы, сакрэт пад замком;
Мы прыносім табе таямніцы стагоддзяў:
Ты пачуеш не толькі аб любоўнай прыгодзе,—
Сэнс дваякі пачуеш фатальнай праявы,
Невядомы ні Ўсходу, ні Грэцыі нават,—
Сэнс Брэтані, дзе сілай дзевятага вала
Акіян кантынент падмывае памалу.
Поўнач гулам сваіх гарадоў адказала:

О Парыж! Мы прыйшлі, мы — крыніцы жывыя —
Гарады, дзе спяваюць, балбочуць святыя,
Металічныя ідалы фабрык святых,
Задымілі хмары ад комінаў тых!

Нібы ўстаў над зямлёй Іксіён механічны,
Нашых рук, нашых пальцаў не злічыш, не злічыш!

Хай завод-велікан, хай майстэрня-спарыш —
Як рабочыя голыя, нашы пальцы працуюць:

За сантымы рэальнасць яны фабрыкуюць.
Гэта ўсё мы табе ахвяруем, Парыж!

. . . . . . . . . . . .

І яшчэ адказалі тады
гарады, гарады...

Толькі я ўжо адрозніць не мог галасоў —
Незнаёмых, аддаленых слоў.

І напеў старажытнага горада Трэва
Зліўся з іншым матывам і іншым напевам.

Свет вялікі змясціўся ў гэтым віне.
Тут былі і жывёлы, і мора, і дрэвы,
Горы, зоры спявалі — здавалася мне;
Чуў людзей на каленях пры беразе неба,
Спеў жалеза,
што служыць нам добра, як трэба;
Быў агонь, без якога не маем натхнення:
Узнікалі нябожчыкаў гордыя цені,
І маланкі, што думку маю нараджалі;
Кілаграмы паперы агнямі дрыжалі.

І збіраліся разам даты, назвы, імёны,
Там былі чарвякі несмяротныя —
Ім належыць штодзённа
Адшліфоўваць пасля нашы косці гаротныя.

Грозных армій змагаліся батальёны,
І былі там лясы:
што ні дрэва, то — крыж,
І была там — ці чуеш, Парыж? —
Хацінка мая ля берагу мілых вачэй;
Крыкі кветак мне чуліся ў змроку начэй.

Гэта ўсё там было,
Гаманіла, жыло.

Апісаць не змагу я — мне слоў не знайсці,
Зразумець не змагу я ніколі ў жыцці
Усяго, што тады мне ўявілася,
Усяго, што на свеце змянілася,—
Распаліла празрыстым вінам
Няўтольную смагу Парыжа.

Пагодныя дні. Жахлівыя сны.
Дзеянні. Вечная музыка руху.
Парасткі, што нараджаюцца з болем.
Светы, якія нагадваюць нас,
Я вас выпіў, а смагі сваёй не здаволіў.

Затое я зведаў смак сапраўдны сусвету.
Ап'янеў ад таго, што я выпіў сусвет сам
на беразе Сены,
Наглядаючы там, як хвалююцца хвалі і дрэмлюць
барліны.

Слухай, слухай мяне! Я — глотка Парыжа.
Буду піць я сусвет зноў і зноў.

Слухай песню маю ап'янення сусвету!

...Вераснёвая ноч праплывала павольна ў вадзе.
Агні не свяцілі з мастоў, захліпаліся ў Сене.
Сярод зорак згасаўшых займаўся ўжо дзень.

*Памяці*

*старэйшага з маіх сяброў,
Рэнэ Даліза, які загінуў на
полі Чэсці 7 мая 1917 г.*

# КАЛІГРАМЫ.
# ВЕРШЫ
# МІРУ І ВАЙНЫ

(1913—1916)

# ПРЫВІД ВОБЛАКАЎ

Напярэдадні чатырнаццага ліпеня,
А чацвёртай гадзіне папоўдні,
Я выйшаў на вуліцу:
Вандроўных акрабатаў
я хацеў пабачыць.

Людзі гэтыя працуюць пад адкрытым небам,
Зрэдку іх цяпер сустрэнеш у Парыжы.
У дні майго юнацтва было іх значна болей,
чым цяпер.
Амаль усе яны паехалі ў правінцыю.

Вось я іду бульварам Сен-Жэрмен.
На плошчы невялікай,
ля помніка Дантону,
Я сустракаю акрабатаў.

Іх акружыў натоўп маўклівы і чакаў пакорліва.
Заняў я месца, каб разгледзець лепш:

Цяжар страшэнны;
Гарады бельгійскія, паднятыя
Магутнымі рукамі рускага рабочага з Лангві;
Пустыя гіры чорныя,
З'яднаныя застылаю ракою!
І пальцы, што прывыклі скручваць сігарэту,
Прыгожа-горкую, як і само жыццё.

Пясок засланы дыванамі бруднымі,
Брыжы якіх разгладзіць немагчыма,

Яны — якраз пад колер пылу,
І плямы жоўтыя, зялёныя
Да іх прыліплі,
Як ліпне ў вушы нам дакучлівы матыў.

Ты бачыш чалавека — дзікуна схуднелага?
Насіў ён попел продкаў на барадзе сівой,
Ён спадчыну сваю насіў на твары,
Здалося, ён пра будучыню марыў
І машынальна ўсё круціў катрынку.
Катрынкі голас! Ён здзіўляў людзей,
І чуліся ў ім булькание, і лямант,
і глухія стогны.

Стаялі нерухома акрабаты.
Старэйшы з іх насіў трыко лілова-ружаватае,—
Такога колеру бываюць твары
Сухотніц юных, з твару нават свежых,
Але асуджаных на смерць хваробай.

Той колер затаіўся ў складках,
Якія акружаюць рот;
Падкраўся ён па-здрадніцку да ноздраў —
Лілова-ружаваты колер.
І чалавек насіў на целе, на спіне
Агідны колер сваіх лёгкіх.
Рукі! Рукі ўсюды ахоўвалі парадак.

Другі вандроўны акрабат
Быў апрануты толькі ў цень. Я доўга
Углядаўся ў чалавека — і нічога
Не ўбачыў і не зразумеў нічога:
Быў гэты чалавек без галавы.

Старэйшы, трэці з іх, зусім падобны
На валацугу, нават на бандыта,

Адцетага, але весельчака.
Ен да таго ж
(з падвязкамі на белых панталонах)
Меў выгляд зводніка, што пільна сочыць
І за сабой і за сваім убраннем.

Прыціхла музыка.
І пачаліся
Перагаворы з публікай, якая
Ашчадна цыркала на дыванок
Манетку да манеткі,— два з паловай франкі,
Замест чаканых трох за выступленне.

Што зробіш? Стала ясна —
Ніхто больш не падкіне ні сантыма
І давядзецца распачаць сеанс.

Тут выйшаў раптам з-пад старой катрынкі
Зусім маленькі акрабат,
Апрануты ў ружовы колер лёгкіх.
Была ў яго на шчыкалатках і запясці
футра.

Падскочыў
з крыкамі кароткімі
І міла нам салютаваў,
Узняўшы ўгору рукі.

Адну нагу адставіў ён назад,
Дагодліва і нізка пакланіўся
На ўсе чатыры часткі свету.

Калі ж падняўся ён на шар,—
Пяшчотнай музыкаю стала
Яго малое цела,

І ўжо не засталося
Спакойных, апатычных гледачоў.

«Як дух маленькі, бесцялесны!» —
Падумаў кожны.

І песня рухаў заглушыла
Старую, механічную катрынку,
Якую чалавек круціў,
Пакрыты попелам далёкіх продкаў.

Малы кульнуў сваё сальта-мартале
З такой гармоніяй,
Што і катрынка сціхла,
Катрыншчык жа
Закрыў рукамі твар;
Здавалася, што гэта ўжо не пальцы,
А верныя нашчадкі яго лёсу;
І на старэчым твары прараслі
Маленькія зародкі будучыні.

Зноў крык чырванаскурага.
І анёльская музыка дрэў.
І знікненне дзіцяці.

Акрабаты ўзнімалі, гуляючы,
Гіры вялізныя.
Яны жангліравалі грузамі.

Але глядач шукаў дзіця дзівоснае
ў самім сабе.

О век! Век воблакаў!

Je n'oublierai jamais ce voyage nocturne où nul de nous ne dit un mot

O
dé
part
sombre
où mouraient
nos 3 phares

o
nuit
tendre
d'avant
la guerre

o
vil
lages où se hâtaient

MARECHAUX-FERRANTS RAPPELES

ENTRE MINUIT ET UNE HEURE DU MATIN

v
e r s
LISIEUX
la très
bleu
e

ou bien

v
e r s
a i l l e
s d' o
r

et 3 fois nous nous arrêtâmes pour changer un pneu qui avait éclaté

«Ніколі не забуду я таго начнога пераходу...»
Каліграма з верша «Маленькае аўто».

# МАЛЕНЬКАЕ АЎТО

Трыццаць першага жніўня
Тысяча дзевяцьсот чатырнаццатага года,
Я выехаў з Давіля позна ўвечары
У малым аўтамабільчыку Рувэра.

З шафёрам разам трое нас было.

«Бывай», —сказалі мы эпосе ўсёй.
А над Еўропай уздымаліся гіганты гневу.

Арлы, чакаючы ўзыходу сонца, пакідалі гнёзды,
Пражэрлівыя рыбы выплывалі з бездані.
Збіраліся народы — пазнаёміцца грунтоўна,
А мерцвякі ад жаху калаціліся
ў сваіх дамоўках змрочных.

Брахалі злосныя сабакі на слупы граніц.

Я ехаў, і былі ў маёй душы
Усе арміі, якія між сабою ваявалі;
Яны паўзлі і выгіналіся,
адна другую вынішчалі;
Былі ў маёй душы лясы і вёскі Бельгіі,
Даліна Руж і Франкаршан,
былі сялібы —
Яны заўсёды першыя пакутвалі
ад чужаземнага нашэсця;
Я нёс з сабой артэрыі чыгунак —
Там ехалі на смерць салдаты,



1916 год... Разгар першай сусветнай вайны. За плячамі франтавыя дарогі, баі, раненне.



На фронце.
Апалінэр-салдат (пасярэдзіне). *1915.*

Жыццю шматкаляроваму мы салютавалі
У апошні раз...

Я нёс з сабою акіянаў глыбіню,—
Між затанулых караблёў
Там плавалі страшыдлы.
І неймаверную я нёс з сабою вышыню —
Туды арол не ўзнімецца —
Там чалавек у бой ідзе на чалавека
І падае раптоўна ўніз, нібыта зорка.

Я адчуваў:
як новыя і спрытныя істоты
Сусвет будуюць новы і кіруюць рухам;
Як незвычайную вітрыну выстаўляе,
Разбагацелы на чужым дабры гандляр;
Як гоняць пастухі гіганцкі статак —
Ідуць жывёліны нямыя
і скубуць пацішку словы,
На іх сабакі брэшуць на дарозе.

*Ніколі не забуду я таго начнога пераходу:*
*Маўчалі мы, ніхто не вымавіў ні слова.*
*О, змрочнае, цяжкое адбыццё,*
*Калі тры нашы фары*
*ў цемры паміралі!*
*О, ноч пяшчотная, перадваенная!*

*О, вёскі,*
*Дзе працавалі спехам кавалі:*
*Іх выклікалі*
*ад поўначы да першае гадзіны раніцы!*

*Мы ймчаліся да сіне-сіняга Лізье*
*І да Версаля залатога,*

*І тройчы мы спыняліся,*
*каб шыну трэснутую замяніць.*

*І, урэшце, пасля поўдня*
*Мы прыехалі у Фантэнбло.*
*З'явіліся ў Парыж якраз у час!*
*Нас сустракаў загад: Мабілізацыя!*
*Мы зразумелі,*
*сябра мой і я,*
*Што гэтае маленькае аўто*
*Прывезла нас у новую эпоху.*
*Хаця былі мы сталымі людзьмі —*
*Мы нанава нібыта нарадзіліся.*

# ЗАРЭЗАНАЯ ГАЛУБКА
# І ФАНТАН

*Вобразы ласкавыя — зарэзаныя.*
*Дарагія вусны пунсовыя.*
*Мія, Марэя.*
*Іета, Лары.*
*Анні і ты, Марыя.*
*Дзе вы, дзяўчаты юныя?*
*Але*
*Каля фантана,*
*Што плача і літасці просіць,*
*Галубка трапеча белая.*

*Успаміны мяне пазбавілі сну.*
*О сябры мае, вы пайшлі на вайну.*
*Успаміны мае пад скляпеннем лунаюць,*
*А вашы позіркі ў спячай вадзе,*
*Тужлівыя, паміраюць.*

*Дзе вы — Брак, Макс Жакоб — маладосці сябры?*
*Дзе Дэрэн — з вачыма колеру шэрай зары?*
*Дзе Рэналь,*
*Даліз, душой шырокі?*
*Імёны іх гучаць далёка,*
*Нібы ў царкве халоднай крокі.*
*Дзе Крэмніц? Сам ён пайшоў у салдаты.*
*Магчыма, ўжо ніхто не вернецца жывы дахаты!*

*Я, поўны успамінаў, застаўся сам з сабой.*
*Фантан смуткуе-плача над маёй бядой.*

*Хто на вайну пайшоў апоўначы,—*
*Змагаецца цяпер на Поўначы.*
*Спусціўся вечар.*
*О, скрываўленае мора!*
*Крывёй сплывае ў садзе збіты алеандр,*
*Як здань вайны, людскога гора.*

## ЦЕНЬ

Вы са мною ізноў,
Успаміны пра родных сяброў,
Загінуўшых на полі бою.

Аліва часу,
Успаміны сплятаюцца разам,
Як у крону адзіную — сотні галін,
Як тысячы ран — у газетны артыкул адзін.

І здані цёмныя, неадчувальныя
Ператварыліся ў мой цень.
Нібы індзеец у засадзе нядрэмны,
За мной вы сочыце, ды дарэмна:
Вы не пабачыце болей мяне,
Вершаў маіх не пачуеце, не.

А я ўсё чую вас
І ўсё яшчэ гляджу на вас.

О доля! О шматлікі цень,
Хай беражэ вас сонца і шануе!
Вы любіце мяне
І не пакінеце ніколі.

Вы скачаце на сонцы, пылу не ўзнімаючы.

Атрамант сонца — цень,
І почырк маёй лямпы — цень,
Бясконцыя набоі спачуванняў.
Прыніжаны, прыземлены мой бог!

# СКАРГА
# САЛДАТА З ДАКАРА

У халоднай зямлянцы, пакрытай лазою,
Каля гармат, павернутых на поўнач,
Я думаю пра вёску афрыканскую,
У якой спявалі, і кахалі,
І гутарку заводзілі
Вясёлую, высакародную.

Бачу зноў майго бацьку-салдата:
Біў адважна ён служак англійскіх лэндлордаў
— ашанці.
Чую смех ашалелы сястры:
Грудзі цвёрдыя мела яна, як снарады.
Бачу маці сваю — варажбітку:
Соллю грэбавала, проса ў ступе таўкла.
І яшчэ ўспамінаю драўлянага ідала —
Вытанчанага, незразумела-хвалюючага,—
Гэта — плоднасці фетыш.

Потым, значна пазней, была галава:
Ляжала яна ля балота, адрэзаная...

О мой вораг зблязднелы,
Твая галава серабрыстая!
А ў балоце, у багне,
Месяц бледны свяціўся, скакаў
І здаваўся ён мне галавой серабрыстай.
Я ў пячоры нябачным зрабіўся:
Галава негрыцянская
З ноччу глыбокай злівалася.

Потым збегла сястра
Разам з нейкім стралком:
Ён памёр у Арасе.

Калі хочаце ведаць вы, колькі мне год,
Запытайце епіскапа:
Быў салодкі-салодкі ён ля маці маёй,
Быў, як маслены кот, ля сястрыцы маёй.
Мы ў дзікунскім жылі будане:
Не такі ён быў дзікі, як нашы зямлянкі,
Для пяхоты і нас — кананіраў.

Пра лафеты даведаўся я ля балота:
Праганялі там смагу даўгашыйкі-жырафы;
А вораг, які сяло рабаваў,
Дзяўчат гвалтаваў,
Сам жахнуўся ад прывіду смерці.

Дзень пры дні, з вёскі ў вёску,
Я чыноўніка-пана насіў.
Потым быў я слугой у Парыжы.
Я не ведаю, колькі мне год...
Як у рэкруты ўзялі мяне,—
Дваццаць год запісалі.
Я — французскі салдат;
Пабялілі мяне адным махам.

Не магу адказаць, дзе знаходзіцца
Наша часць пяцьдзесят дзевятая.
І чаму, аднак, белым быць
Лепш, чымся чорным?
І чаму нам у скокі пускацца няможна,
Паспрачацца па-людску і, сытна пад'еўшы,
Затым легчы спаць?

І вось мы страляем
Па харчовых абозах бошаў,
Мы склявалі ўсё поле снарадамі.
І пад ліўнем жалезным
Я ўспомніў страшэннае возера,
І людзей, прыкаваных страшэннай любоўю.
Прыгадаў я вар'яцкую ноч,
Чараўнічую ноч —
        Такую ж, як сёння,
Дзе жахлівыя позіркі
        Разрываюцца кулямі
У небе цудоўным.

# ЗАЎСЁДЫ

*Мадам Фор-Фаўе*

Мы будзем крочыць далёка,
Але не прасунемся ўперад ніколі.

Ад планеты адной да планеты другой,
Ад туманнасці да туманнасці,
Не пакідаючы зямлі ні на хвіліну.
Дон Жуан, палюбоўнік трох тысяч камет,
Сілы ў свеце шукае новыя
І ўспрымае сур'ёзна міраж.

Колькі, колькі сусветаў не помняць сябе,
О, якая ў іх памяць кароткая!
Хто ж прымусіць нас з памяці выкінуць
Частку свету —
Тую ці іншую?

Дзе знаходзіцца гэты Калумб Хрыстафор,
Што закрые для нас кантынент — хоць адзін?
Згубіць,
Але згубіць на самай справе,
Каб пляц пакінуць для адкрыцця.
Прайграць —
Для Перамогі, для жыцця.

# ЛОКАН, ЗНОЙДЗЕНЫ НАНАВА

Ён у памяці раптам знайшоў
Цёмна-русы, ласкавы локан.
— Долю дзіўную бачыш ізноў
У дарозе сваёй далёкай?

— І бульвар дэ Шапэль, і Атэй,
І Манмартр незабыты, вядома,—
Шэпча локан,— мне сняцца часцей
Дні сустрэч і парог твайго дома.—

Быццам восені сонечнай цень,
Знікне локан маіх успамінаў...
Развітання апошняга дзень
Зліўся з доляю дзіўнай,
адзінай.

## РАЗВІТВАЕЦЦА КОННІК...

О, божа, якая вайна прыгожая!
Песняй па маршы вядзе, прыспешвае.
Навокал мяне кальцо варожае,
Вецер стогны нашы з тупатам змешвае.

Бывайце!..
Дык вось ты, сядло маё вернае,
Вір цябе закруціць — шукай, безгалосага!
Сядло памірае —
вайна ненажэрная
З лёсу насміхаецца нашага дзівоснага...

## У ТРАНШЭІ

Я кідаюся да цябе, і мне здаецца,
Што ты насустрач — у мае абдымкі.
Мы знітаваны сілаю адной і полымем адным.
І раптам узнімаецца перагародка,
І мы не можам бачыцца з табой.
Перада мной сцяна з адрузлай вапны,
У выступах, у зломах, у зігзагах:
Рыдлёўкі выгрызлі на ёй
Такую роўнядзь зрэзаў,
Нібы сцяна была са стэарыну.
Вуглы на выступах абсыпаліся ўсе:
Праходзілі праз мой бліндаж салдаты.
У гэты вечар у душы маёй
Адкрылася бяздонняя пустата,—
Бясконца падаў я, а дна ўсё не было,
І не было за што ўчапіцца!

Усё, што нізка падае і ў той жа час жыве,
Здаецца мне агіднаю істотай,
Яно мяне балюча раніць...
Мая душа становіцца пустыняй,
Ёй не хапае сонца і маланак!
На шчасце, гэта толькі сёння,
ў гэты вечар.

А ў іншыя цяжкія дні
Ратуюся ад жахаў і самоты:
Ты — мой ратунак.
Я табе адданы.

Я хараство тваё ўяўляю,
Узвышаючы яго над светам ашалелым.
Пасля я думаю, што гэта ўсё дарэмна.
Не ахапіў я розумам яго —
Я слоў для хараства не адшукаў,
Навошта да яго імкнуся?..
Існуеш ты ці не, маё каханне?
Ці, можа, я цябе прыдумаў
У сваім жаданні,
Каб засяліць, запоўніць адзіноту?

А можа, ты адна з багінь,
Прыдуманая грэкамі, самім сабе на ўцеху?
Багіня ты мая,
Усё роўна я цябе кахаю,
Калі ты нават выдумка мая!

## ЗЯМНЫ АКІЯН

*Дж. дэ Кірыко*

Я дом збудаваў пасярод Акіяна;
Вокны яго — гэта рэкі —
струменяць з маіх вачэй.
Кішаць асьміногі ля сцен мураваных,
Грукаюць сэрцам патройным,
грукаюць дзюбай у шыбы.
Вільготны дом!
Мой дом палае.
А час, як гром:
Ляціць,
спявае.
Самалёты гатовы падкінуць яйка.
Увага! Зараз прычаліць дрэдноўт.
Увага! Ракою цячэ чарніла.
Спусціцеся з завоблачных вяршынь —
Так будзе лепш!
Бруржмель свае шчупальцы звешвае з неба —
І на зямлі асьміногі дрыжаць.
Мы самі становімся ўласнымі магільшчыкамі.
О, асьміногі сярод белых хваль, як крэйда.
О, асьміногі з дзюбамі збялелымі!
Навокал дома Акіян Зямны і гул прыбою,
Не ведае дом ніколі спакою.

## ЦУДЫ ВАЙНЫ

Як прыгожа ракеты асвятляюць трывожную ноч!
На вышыні ўзнімаюцца і, нахіліўшыся,
ўніз пачынаюць глядзець.
Гэта — дамы, што ў небе танцуюць
і паглядаюць на рукі людскія, на вочы і сэрцы.

Я ўсмешку тваю пазнаю
і рухавасць тваю...

Гэта — апафеоз летуценных маіх Веранікаў,
Гэта іхнія косы каметамі сталі.

Раззалочаныя танцоркі!
Розным порам належаць яны, розным расам.
І раптоўна яны нараджаюць дзяцей,
паміраючых мігам.

Як прыгожа ракеты ўгары выглядаюць!
І, напэўна, яшчэ прыгажэй выглядалі б,
каб да іх далучыліся новыя...

Хай бы нават мільёны ракет мелі сэнс абсалютны
і адносны, як літары ў кнізе,
Гэта ўсё выглядала б прыгожа...
як выгляд саміх паміраючых!

Але стала б яшчэ прыгажэй,
каб з'явілася болей ракет!

І, аднак, мне ўяўляецца гэта,
як нешта цудоўнае:
Не паспее з'явіцца яно,
як пара паміраць!

Мне здаецца, я трапіў на пір,
незвычайна азораны:
Тут балюе зямля,
згаладалася вельмі яна
І разявіла рот пабляднелы і доўгі.
Згаладалася вельмі зямля
і спраўляе свой пір —
канібальскі банкет Вальтасара.

Хто б падумаў, што будзе на свеце
людаедства такое!
Колькі ж трэба агню,
каб засмажыць чалавечыя целы!
Вось чаму у паветры
дух слабы эмпірэя;
далібог, не зусім ён агідны!

Быў бы гэты банкет больш прыгожы,
Калі б неба глытала тыя целы разам з зямлёй.
А яно ж паглынае толькі душы забітых
І зусім не сыцее ад гэтага!

Задаволена неба: жангліруе спрытна
агнямі рознакаляровымі...

Я спазнаў разам з ротай маёй
«Слодыч» гэтай вайны
ў макротах траншэяў бясконцых.
Крыкі полымя часта
абвяшчаюць прысутнасць маю.



Прабітая каска...

17 сакавіка 1916 г. Г. Апалінэр быў цяжка паранены на вайне. Каска захоўваецца на апошняй кватэры паэта ў Парыжы, на бульвары Сен-Жэрмен.



П. Пікасо бачыў упершыню. *1916*.
Такога Г. Апалінэра

Тут я выкапаў ложак,
                              тут усцэ маё,—
Я разліўся на тысячу рэчак маленькіх,
                                        паўсюдных.

Я ў траншэі на лініі першай
І, аднак, я — усюды,
                              прабіраюся ўсюды.
Пачынаю я справу наступных вякоў
І здзяйсняць яе значна цяжэй,
                              чым легенду аб крылах Ікара.

Я пакідаю будучыні запавет —
                                        гісторыю Апалінэра.
Ён на вайне знаходзіўся
                              і разам з тым быў ён усюды:
У гарадах, пасёлках тылавых,
                                        дзе шчасце не хімера,
На тым і гэтым свеце пабыў і ў будучыню верыў:
І з тымі быў, хто паміраў
                                        на палях здратаваных,
І з тымі, хто весяліўся з жанчынамі ў рэстаранах.
Быў ён гарматай і канём,
У чатырох краінах свету быў ён пад агнём,
І ў непаўторным кроку войска
                                        жыў.
Калі б сусвет і ўсё, чым [redacted] жыву,
Маглі б мяне напоўніць,—
          от было б выдатна!

Аднак няма цвярозага тут сэнсу:
Таму што ў гэты час я ўсюды,
          я — ва ўсім,
Але ў самім сабе —
                              я ўсё ж адзін.

# ЁСЦЬ

Ёсць карабель, які адвёз маю каханую;
Ёсць шэсць кілбас у небе,
І ўначы яны здавацца будуць нам лічынкамі,
з якіх выходзяць зоры;
Ёсць варожая лодка падводная —
крыўдзіцелька майго кахання;
Ёсць тысяча маленькіх елак навакол мяне,
зламаных выбухам снарадаў;
Ёсць пехацінец: ён аслеп ад хмар удушлівага газу;
І ёсць разбітыя нашчэнт траншэі Ніцшэ, Гётэ, Кёльна;
І ёсць мая знямога:
позняцца лісты!

Ёсць фотаздымкі маёй каханай
у сумцы палявой;
І ёсць палонныя:
яны ідуць, трывожныя, панурыя;
Ёсць батарэя:
ля гармат мітусяцца разлікі;
Ёсць паштальён вайсковы —
ён трушком бяжыць уздоўж самотных дрэў;
І, кажуць, ёсць шпіён.
Ён поўзае і шнырыць, нябачны,
як брудны далягляд, з якім ён зліўся;
Ёсць высокі, як дзве лілеі, бюст маёй незабыўнай;
Ёсць капітан, які з трывогаю чакае,
што прынясе з Атлантыкі радыётэлеграф;
Ёсць ноч, і ёсць салдаты,
што дошкі пілуюць на труны;

І ёсць жанчыны, што галосяць-просяць для дзяцей маісу
перад скрываўленым Хрыстом у Мехіка;

Ёсць і Гальфстрым, ён цёплы, жыватворны;
Ёсць могілкі за кіламетраў пяць адсюль,
застаўленыя, як палкамі ўпрытык,
Бясконцымі шпалерамі крыжоў
(Тут, дарэчы, крыжы і далёка, і побач),
І ёсць інжыр на кактусах Алжыра;
Ёсць гнуткія, даўгія рукі маёй каханай;
І ёсць чарніліца, што змайстраваў я з гільзы,—
мне яе не дазволяць адгэтуль адправіць;
І ёсць сядло маё пад праліўным даждэком;
Ёсць рэкі, верныя свайму кірунку-плыні;
І ёсць каханне, што мяне пяшчотна кліча;

Быў тут палонны бош —
ён на спіне цягнуў свой кулямёт;
На свеце ёсць мужчыны,
што ніколі не бывалі на вайне!
Ёсць індусы:
яны ў здзіўленні глядзяць на еўрапейскія вёскі
і думаюць, смуткуючы, пра тых,
каго убачыць больш не давядзецца;
Ёсць усё, бо мастацтва ўяўлення
так высока ўзнялося у час вайны!

# ПЕСНЯ ЛЮБОВІ

Вось з чаго складаецца сімфонія кахання:
Тут спеў кахання даўняга,
Гук пацалункаў згубленых каханкаў знакамітых;
Тут — крык кахання простых смертных,
замучаных багамі;
Герояў легендарных мужнасць,
нацэленая, як гарматы супраць самалётаў;
Тут — крык каштоўнасцей Язона,
І спеў апошні лебедзя,
І перамогі гімн,
калі ад першых сонечных праменняў
алень прачнецца і затрубіць;
Я чую крык Сабін, калі іх выкрадаюць,
Лісліва-таямнічы крык кахання ў джунглях,
І сокаў шум глухі ў ствалах трапічных дрэў;
Артылерыйскі гром, якім суправаджаецца
жахлівая «любоў» народаў;
І перакаты хваль, дзе нараджаецца
жыццё і хараство.
Я чую песню ўсёй любові свету!

# АДЫХОД

I твары збялелі іхнія,
Раптоўна рыданне змоўкла...

Як снег на пялёсткі ціхія,
Як рукі твае ад слязы намоклыя,
Так ападала лісце з-пад інею
Раннім зазімкам.

# ВІНАГРАДАР З ШАМПАНІ

Набліжаецца полк.
Вёска дрэмле, залітая водарным ззяннем.
Носіць нейкі свяшчэннік салдацкую каску.

Ну а бутля з Шампані —
Артылерыя гэта, ці не?

Вінаградныя гронкі звісаюць,
як на грошах хвасты гарнастаяў.

— Прывітанне, салдаты!
Бачыў я, як вы «ножку давалі» ў шарэнгах ля рэчкі.

Прывітанне, салдаты — бутэлькі з Шампані,
ў якіх бродзіць гарачая кроў.

Пэўна, тут вы прабудзеце некалькі дзён,
а пасля: «У шарэнгу па тры —
Станавісь!»,— як кусты ў вінаградніках нашых,
і — на фронт.

Я, куды ні папросяць, віно сваё бутлямі шлю,
Нібы поўныя хмелю снарады.
Сёння поўня, а светлая ноч — гэта вадкасць віна.—
Вінаградар спяваў, услаўляючы свой вінаграднік;
Вінаградар бяззубы, амаль што бязроты, спяваў
сам сабе ў глыбіні небасхілу.

Вінаградар, што й сам быў падобны на буталь жывы.
Ён, былы кананір артылерыі, ведаў, што значыць вайна.
Вінаградар з Шампані.

Вечарэе,
чуваць, як ідзе перапалка ў мішэнь.
Хай гуляюць салдаты, ім скора ў акопы на поўнач,
Дзе ўжо артылерыя з трэскам свае адкаркоўвае бутлі.

Бывайце!
Старайцеся, хлопцы, вярнуцца назад,
Хоць бог толькі ведае,
што з вамі здарыцца можа.

## ПАШТОЎКА

Пішу табе ў нашай палатцы прабітай,
Калі надыходзіць такая пара,
Што неба крывавай зарой перавіта,
А дзень не здаецца...
Пачулася «ўра».
Грыміць кананада. Праз спелае жыта
На нашы пазіцыі прэ немчура.

# ПЕРАМЕНА

Жанчына заплаканая каля хаты,
Эх, ох, ах!
Па пыльнай дарозе на маршы салдаты,
Эх, ох, ах!
Паблізу ад шлюза — з вудай рабочы,
Эх, ох, ах!
І ямы траншэй, як запалыя вочы,
Эх, ох, ах!
Снарады, што бухалі і разрываліся,
Эх, ох, ах!
Запалкі, што болей у рукі не браліся —
Эх, ох, ах!
Усё ва мне з часам заглухла дазвання,
Эх, ох, ах!
Усё,
апрача майго кахання!
Эх, ох, ах!

## БУДУЧЫНЯ

Падкінем саломы,
Зірнём на снег,
Напішам лісты,
Пачакаем загаду,

Закруцім цыгаркі,
Згадаем каханне,
Зірнём на вінтоўкі,
На ружу зірнём!

Крыніца не высахла,
Саломы золата не пацямнела.
На пчолку заглядзімся,
Не думаючы аб заўтрашнім.

На рукі нашы зірнём!
Гэта — снег,
І ружа, і пчолка,
І наша будучыня!

## СМУТАК АДНОЙ ЗОРКІ

Красуня Мінерва — лятунак душы тылавой,
Крывавая зорка — карона мая давеку.
Розум — глыбока,
неба — над галавой —
Вось як цікава ўзброіў лёс чалавека.

Гора маё — не горшае ў нашым жыцці,
Бо зоркай стала
амаль смяротная рана.
Але пашукайце — і цяжка будзе знайсці,
Каб гэтулькі смутку ў збалелай душы ветэрана.

Пакуты палаючыя ў сабе і з сабою нясу я;
Так светлячок цягне цела сваё,
што гарыць, палымнее.
У сэрцы салдата так Францыя б'ецца, пульсуе,
Як б'ецца гарачы пылок у сэрцы лілеі.

# ПЕРАМОГА

Спявае певень... Мару я... Гайдаюцца галіны,
А лісце іх нагадвае матросаў пры гайданцы.

Крылатыя і вёрткія, нібы Ікар падроблены,
Сляпыя варушыліся, нібы мурашкі,—
Глядзелі ў дождж у люстра тратуара.

Натоўп са смеху лопаў, як гронкі вінаграда.

Мой дыямент жывы! Не пакідай мяне.
Салодка спі. Ты ў хаце роднай,
і табе належаць
Мой ложак, лямпа
і мая прабітая старая каска.
Зіркі на ясныя сапфіры, адгранёныя ў Сен-Клод.
Дні былі ясныя, нібы смарагд зялёны.

Я ўспамінаю цябе, горад метэораў,
Дзе я не спаў начамі ад тугі і зораў.
Цвілі сады, я рваў святла букеты.

Даволі неба нам палохаць!
Няхай маўчыць і не заікнецца!

Так цяжка уявіць,
Наколькі людзі
Ад поспехаў дурнеюць, спакайнеюць!

У інстытуце ў юных слепакоў дапытваліся строга:
«А ці няма тут сярод вас крылатага сляпога?»

О, чалавек! Шукаеш мовы новай,
новых слоў.
Для іх граматыка не знойдзе правілаў, умоў!
Старыя словы спарахнелі ад сваіх гадоў.

Па баязлівасці і звычцы
Сёй-той у вершы цягне іх патрошку,
Яны, нібыта хворыя,
прыкутыя да ложкаў.
І стануць неўзабаве людзі маўчунамі:
ўсё адно,
Хапае мімікі і жэстаў у кіно.

Але мы ўпарта жадаем гаварыць!
Варушыць языком!
Для сябе,
для далёкіх унукаў —
Мы шукаем новых гукаў,
Новых гукаў, новых гукаў.

Мы шукаем зычных асобна ад галосных,
Зычных, якія ўзрываюцца глуха;
Пераймайце гукі ваўка,
Прымушайце іскрыцца гук насавы
і працяглы!
Цмокайце, шчоўкайце языком,
Карыстайцеся шумам глухім
Чалавека, які за сталом
Паводзіць сябе непрыстойна!

Нават свіст прыдыхальны пляўка
Будзе гукам нязвычным,
зычным!

Нават розныя выбухі губ
Зробяць вашу размову трубным клічам!
Навучыцеся лаяцца па ўласнай волі!

Што за літара ўдарная, быццам звон,
Сёння ў памяці нашай гучыць?

Мы не заўсёды разумеем радасць цудаў,
Мы ў адчуванні новых рэчаў — беднякі.
О, дружа мой, надыдзе час і ўжо не будуць,
Цябе не будуць клікаць цягнікі.

Глядзі, пакуль не позна, на чыгунку,
Глядзі на рэйкі, чалавек:
Яны павернуцца ў другім кірунку,
І знікнуць, смешныя, прыгожыя, навек.

Дзве лямпы зіхацяць перада мной,
Як дзве жанчыны, што з мяне смяюцца,
Схіляю я тужліва галаву
Пад гэтым позіркам пакеплівым, жаночым.

Разліўся гэты смех
Усюды!

Рукамі размаўляйце,
пстрыкайце вясёла пальцамі,
Сябе па твары біце, нібы ў барабан!

О, словы!
Яны ля міртавай дубровы;
І плачуць Антэрос і Эрос.
А я пад самым небам горада жыву.

Слухайце мора!
Далёка стогне мора
і крычыць самотна.
І голас мой адданы, нібы цень,
Ператварыцца хоча ў цень жыцця,
Няверным хоча быць, як ты, жывое мора!

Матросаў мора прагнае знішчае,
Як ідалаў-багоў,
і мае крыкі косіць.
І толькі цень ад крылаў чаек,
Здаецца, тое мора зносіць.

Успыхне слова — здрыганецца бог.
Ты падыдзі, дапамажы мне!
Рукі я шкадую,
Што песцілі мяне любоўна ў дні трывог.

А заўтра што?
Які аазіс рук знайду я?
Ты разумееш радасць бачыць новае?

О, голас! Размаўляю я на мове мора.
І ў порце, уначы, ў паскудненькіх тавернах,
Я больш упарты, чым страшыдла з Лерны.

Па вуліцы плывуць мае абедзве рукі,
І пальцамі абмацваю я горад свой.
Яшчэ не ведаю нічога.
Хто ведае —
Знайду я заўтра вуліцу жывой?
Куды мая павернецца дарога?

Ты помні, што чыгунка з часам
Выйдзе з моды.

Глядзі, ўглядайся!
Перамога, перш за ўсё, ў наступным'
Убачыць блізка
Тое, што далёка —
Усё поўнасцю!
І хай па-новаму
Усё назавецца!

## РЫЖАЯ КРАСУНЯ

Гляньце! Я ўвесь перад вамі,
поўны сэнсу разумнага:
Я не толькі ўведаў жыццё,
А ўсё, што жывыя
Могуць аб смерці даведацца;
Зведаў горыч і слодыч кахання,
Часам навязваў людзям ідэі свае,
Мовы розныя вывучаў,
Пабываў у вандроўках далёкіх,
І вайну я прайшоў з артылерыяй
і пяхотай.

Ранены ў галаву,
пад хлараформам трэпанаваны,
Я згубіў сваіх лепшых сяброў
у жахлівых баях.
Я ведаю столькі аб мінулым
і сучасным,
Колькі можа ведаць адзін чалавек.

Сёння мяне не трывожыць вайна
Паміж намі, сябры, і за нас;
Справядліва мяркую аб сварцы працяглай
Між Традыцыяй і Адкрыццём,
Між Парадкам і вялікім Пошукам.
Вы, надзеленыя вуснамі,
падобнымі да боскіх,
Вуснамі,
якімі размаўляе строй-парадак,

Не судзіце вельмі строга,
параўноўваючы нас.
З ідэаламі Парадку!

Мы, шукальнікі,
імкнёмся
Невядомы край адкрыць.
І не ворагі мы вашы!
Для сябе адкрыць жадаем
Незвычайныя ўладанні:
Таямніцу ў кветках яркіх
Знойдуць тыя, хто шукае.
Там — нябачаныя фарбы,
Ззяюць новыя агні,
І міраж, якому трэба
Даць рэальнае жыццё.

Так! Разведаць мы жадаем
Дабрату краіны светлай,
што пакуль яшчэ маўчыць.
Можна час прагнаць са свету,
Ці вярнуць яго ізноў.
Літасці мы заслужылі!
Мы ваюем на граніцах
Будучыні і прастору,
Літасці прашу да нашых
Хібаў і грахоў!

Вось і лета запалала —
Час шалёны надышоў.
І маё юнацтва сёння
Памірае, як вясна.
Сонца смелае ў зеніце —
гэта розуму ўсход,
Гэта мой чаканы год!

Мне б за ім ісці нязменна,
Каб любоў маю ўвасобіць
У прыгожы, чысты вобраз!

Да мяне прыходзіць шчасце
У выглядзе Красуні рыжай.
Запалалі косы ўранку:
Быццам пасвяцца маланкі
На пялёстках чайных ружаў.

Людзі, блізкія, далёкія,
Людзі, смейцеся з мяне!
Адтаго, што надта многа
Ведаю ў жыцці такога,
Пра якое я адразу
 не адважуся сказаць.
Ды і самі вы, напэўна,
 не дасцё ўсяго сказаць!
Майце літасць да мяне!

## ЛІСТЫ ДА ЛУ

### (З Паслання XXXVII)

Я тут адзін. Мне толькі іскры свецяць
Сасновых дроў.
Спарадаў стогн і стук падкоў прыносіць вецер
З дарог-шляхоў.

Тут, на палях вайны, груган злавесна
Уначы крычыць.
І да цябе [illegible] каморкі цеснай
Мой ліст ляціць.

Мае радкі, як сімвал таямнічы
Шчаслівых дзён.
Цябе здалёк я клічу,
клічу,
клічу
Мой лепшы сон!

Яшчэ жыццё, як сэрцы нашы, не збяднела.
Жыццю — квітнець!
Ключ ад пачуццяў самых моцных, смелых
Мы будзем мець.

Любоў, адзіная на свеце, стукне ў дзверы.
О Лу, бывай!
Адна ёсць зорка ў небе —
мая надзея, вера,
Мой юны край.

Як дзіўна! Позірк твой, нібыта зорка,
Прабіў імглу.
Працяты я тваёй пакутай горкай.
Бывай, о Лу!

# ПРАЛЕТАРЫЮ

Ты — у няволі без віны ніякай.
Тут сталь і медзь: ляцяць яны ў атаку.

Працуеш моўчкі ты. А за сцяной фабрычнай
Да добрых спраў
людзей прырода кліча.

Халодныя вятры ляцяць за мора —
Здзімаюць на ляту з машын і пыл, і гора.
Зямля гадуе каласы і ведаў дрэва,
Дзе спеюць для цябе
плады бунтарства, гневу.

Тваіх тапельцаў мора хуценька хавае,
А зоркі ззяюць, ясныя, над краем,
Табе ўсміхаюцца святлом надзей,
Варожаць уначы над лёсам тых людзей,
Што здабываюць хлеб надзённы
У пакутах горкіх —
клопатах бяссонных.

Каштуе мала зорак бляск? Нічога!
А кроў твая, жыццё тваё —
ці даражэй намнога?

Ты нарадзіў сыноў, падобных да багоў,
Якіх чакае цяжкі лёс бацькоў.

Тваіх дачок чакаюць смутак і турботы.
Тваіх жанок святых
скалечыла работа:

Счарнелі рукі іхнія,
яны хаваюць рукі;
Не для дзяцей тваіх, якія гнуцца крукам,
Раскоша панская вітрын!
Усё для іншых ты стварыў адзін.

Стварыў ты гарадоў нядобрых прыгажосць,
Яны забралі працу ўсю тваю, як ёсць.

I ў шахце ў ляску, у каменным бляску
Ты верыш сам сабе — па абавязку.

# АПОШНІ РАЗДЗЕЛ

Рушыў на плошчу народ у той дзень:
Прыйшлі і негры, і белыя,
і жаўтатварыя людзі;
Прыйшлі рабочыя з фабрык, дзе трубы ўжо не дымелі,—
Была забастоўка.
Прыйшлі тынкоўшчыкі ў брудным адзенні,
што вапнай прапахла;
Прыйшлі мяснікі — далоні ў іх
былі запэцканыя крывёй;
І пекары з бледнымі тварамі,
абсыпанымі мукой;
Прыйшлі прыказчыкі, кінуўшы прылаўкі
на сваіх гаспадароў;
Прыйшлі суровыя жанчыны:
дзеці сядзелі ў іх на руках
Або чапляліся за спадніцы матак;
Прыйшлі і зусім няшчасныя, але дзёрзкія,
Нафарбаваныя, напудраныя, наплоеныя;
Прыйшлі калекі: кульгавыя, бязрукія,
глуханямыя, сляпыя;
Прыйшлі нават свяшчэннікі
і некалькі дзіўных
элегантна апранутых мужчын.
І горад за межамі Плошчы мёртвым здаваўся —
Нават не ўздрыгваў, нават не дыхаў ён.

* * *

Ніколі змрок святла не пераможа.
Хай вечар журыцца.
Чакайце:
Уранку зноў жыццё трывожна
Пастукае ў акно.
Да нерухомасці пагарду адчувайце!

Я акунаю рукі ў хвалі шчасця.

# *Заўвагі*

## БЕСТЫЯРЫЙ АБО КАРТЭЖ АРФЕЯ (1911)

Зборнік складаецца з трыццаці вершаў. У гэтым выданні друкуецца дваццаць адзін верш. Сем з іх перакладзена ў нашай краіне ўпершыню: «Чарапаха», «Конь», «Муха», «Конік», «Медуза», «Карп», «Ібіс».

## АЛКАГОЛІ (1898—1913)

Назва кнігі мянялася чатыры разы. Былі розныя варыянты: «Вецер Рэйна», «Рэспубліканскі год», «Гарэлка» і, нарэшце, «Алкаголі». У адным з варыянтаў паэмы «Зона» Апалінэр пісаў, што ў краінах будучыні, «дзе больш не будзе няшчасных на вуліцах», не будуць піць і «гэтых алкаголяў, пякучых, як маё жыццё».

### Зона

*(«Ле Суарэ дэ Пары», снежань 1912, № 12).*

Папа Пій дзесяты вельмі варожа ставіўся да ўсяго сучаснага.

Апалоній з Ціяна — філосаф-піфагарэец I ст. н. э.— лічыўся чараўніком.

Рох (з арабскага) — гіганцкая птушка ва ўсходніх паданнях.

Пі-і — згодна з кітайскай легендай, птушкі, якія зрасліся парамі і разам лёталі.

Нотр-Дам, па-французску — Божая маці; Сакрэ-Кёр — сэрца Ісуса Хрыста.

Сабор св. Віта — вялікі гатычны сабор у Градчанах — раёне пражскага града.

«Вось сям'я пераносіць падабенства чырвонай пярыны» — паэт успамінае чырвоны пухавік, які эмігранты Кастравіцкія вывезлі з Беларусі. Гэтую рэч маці перадала пазней сыну, як дарагую рэліквію. «А пярына, як нашы жаданні, падманная». Словы, якія маюць адносіны да горкага лёсу ўсіх эмігрантаў і, у прыватнасці, да самога паэта.

**Мост Мірабо**

*(«Ле Суарэ дэ Пары», люты 1912, № 1)*

Мост Мірабо — мост цераз раку Сену ў Парыжы.

**Песня няшчаснага ў каханні**

У арыгінале гэта паэтычная сюіта складаецца з сямі вершаў. На беларускую мову перакладзена тры з іх.

**Анні**

*(«Ле Суарэ дэ Пары», верасень 1912, № 8)*

Вершы прысвечаны Анні Плейдэн, якая была гувернанткай у адной англійскай сям'і. Там жа працаваў хатнім настаўнікам Вільгельм Кастравіцкі — малады Апалінэр. Ён моцна кахаў Анні, прысвяціў ёй шмат вершаў. Але яе палохала палымянае каханне паэта, і яна ўцякла ад свайго шчасця ў Амерыку. Цікава апісвае гісторыю гэтага кахання польская пісьменніца Юлія Хартвіг у аповесці «Апалінэр» (выдавецтва «Прагрэс», Масква, 1971).

Менанітка — імкненне высмеяць пурытанскі характар Анні. Менаніты — анабаптысцкая секта, заснаваная ў пачатку XVI ст. і мае дагэтуль прыхільнікаў у ЗША.

**Верш, прачытаны на вяселлі Андрэ Сальмона 13 ліпеня 1909 г.**

Андрэ Сальмон — французскі паэт, сябар Апалінэра, прытрымліваўся прагрэсіўных поглядаў, быў цесна звязаны з Расіяй. Цікава, што Апалінэр ужывае слова «moujik», а не «paysan». Гэта рускае слова перадаў яму А. Сальмон, які ў свой час бываў у Расіі.

Увесь верш Апалінэра будуецца на тым, што вяселле Сальмона спраўлялі напярэдадні 14 ліпеня 1909 г.— г. зн. напярэдадні свята 120-годдзя Французскай рэвалюцыі.

**Вандроўныя акрабаты**

*(«Лез Арганот», люты 1909, № 9)*

Паэт прысвячае свой верш Луі Дэюмуру — швейцарскаму пісьменніку — аўтару кніг і артыкулаў пра нямецкую і рускую культуру і Русо.

### Рэйнскае

Вершы з гэтага цыкла перакладзены не поўнасцю.

Апалінэр напісаў «Рэйнскае» пасля свайго падарожжа па розных гарадах Аўстрыі і Германіі. Ён наведаў гэтыя гарады дзякуючы таму, што ездзіў як хатні настаўнік з сям'ёй дэ Міло ў 1901—1902 гг. Ён пабываў і ў Празе, якая пакінула моцнае ўражанне і наблізіла яго да славянскага свету.

### У турме Сантэ

Вершы былі напісаны ў верасні 1911 г., калі Апалінэра незаконна арыштавалі. Яго абвінавацілі ў тым, што паэт нібыта ўкраў у Луўры карціну Леанарда да Вінчы «Джаконда». Да адказнасці быў прыцягнуты таксама і Пікасо. Несправядлівасць абвінавачання і пратэсты грамадскасці прымусілі ўлады вызваліць Апалінэра з турмы, дзе ён прабыў тыдзень. Пасля гэтага ён знаходзіўся пад следствам яшчэ чатыры месяцы.

Апрача вершаў «У турме Сантэ», Апалінэр з горыччу ўспамінае пра гэты перыяд свайго жыцця і ў паэме «Зона»: «Ты ў Парыжы пад следствам. Ну дзе вы падобнае чулі? Як злачынцу якога, паэта ў кутузцы замкнулі!»

### Вандэм'ер
*(«Ле Суарэ дэ Пары», лістапад 1912, № 10)*

Вандэм'ер — першы месяц рэспубліканскага календара,— месяц, ад якога ў 1792 г. пайшло рэвалюцыйнае вылічэнне часу. Гэта — паэма пра надыход новай эры.

## КАЛІГРАМЫ.
## ВЕРШЫ МІРУ І ВАЙНЫ (1913—1916)

Кніга выйшла ў выдавецтве «Меркюр дэ Франс» у Парыжы ў красавіку 1918 г. тыражом 1040 экз. Яна складаецца з наступных раздзелаў: «Хвалі», «Штандары», «Скрыня на спіцах», «Артылерыйскія зарніцы», «Снарады пад колер месяца», «Зорная галава».

У кнігу ўвайшлі франтавыя вершы Апалінэра, напісаныя ў траншэях, пад артылерыйскім агнём, і ў шпіталі. Ён праўдзіва раскрывае ўсе жахі вайны і яе недарэчнасць.

У вершы «Перамога» ён гаворыць не пра перамогу на

вайне, а пра перамогу ў галіне прагрэсу, у галіне культуры, пра тое, што мір павінен перамагчы вайну.

Паводле ўспамінаў Андрэ Бійі, Апалінэр адразу зразумеў, што Расіі патрэбен Брэсцкі мір, і адобрыў заключэнне сепаратнага міру.

Няясным застаецца той факт, чаму Апалінэр у вершы «Маленькае аўто» паставіў няправільную дату пачатку першай сусветнай вайны: замест 1 жніўня 1914 года, ён напісаў 31 жніўня.

«Песня любові» — Язон, паводле грэчаскага міфа, выкраў залатое руно ў Калхідзе.

«Рыжая красуня» — заключны верш кнігі «Каліграмы», прысвечаны будучай жонцы паэта Жаклін. Гэты верш з'яўляецца сінтэзам апалінэраўскай паэзіі, запаветам Апалінэра.

Упершыню ў нашай краіне друкуюцца пераклады вершаў: «Развітваецца коннік», «Паштоўка», «Песня любові», «Перамена», «Смутак адной зоркі».

## З РОЗНЫХ КНІГ

«Пралетарыю» — верш быў напісаны ўвесну 1902 г. і надрукаваны толькі праз пяцьдзесят гадоў. Ён увайшоў у кнігу «Меланхалічны вартавы», апублікаваную ў Парыжы ў 1952 г. з прадмовай сябра Апалінэра, Андрэ Сальмона.

### Апошні раздзел

*(«Лачэрба», 1 чэрвеня 1914, № 11)*

У 1919—1926 гг. гэты верш двойчы перадрукоўваўся, як ўзор рэвалюцыйнай паэзіі Апалінэра.

### *** Ніколі змрок святла не пераможа

*(1899, дакладная дата не высветлена)*

Адзін з юнацкіх вершаў Апалінэра. Упершыню надрукаваны ў зборніку «Меланхалічны вартавы». Мы заключаем кнігу гэтым вершам: яго аптымізм характэрны для ўсёй пазнейшай творчасці паэта, які любіў жыццё і верыў у перамогу светлай будучыні.

# ЗМЕСТ

**Апалінэр Г.**

Зямны акіян. Выбранае. Мн., «Мастацкая літаратура», 1972.

140 с. з іл. 2500 экз. 34 к.

Зборнік Гіёма Апалінэра «Зямны акіян» — першае асобнае выданне твораў вядомага французскага паэта на беларускай мове.

А $\frac{0747\text{-}008}{М302(05)\text{-}73}$ 193-72

И (Фр)
А 76

**На белорусском языке**

**Гийом Аполлинер**

**ЗЕМНОЙ ОКЕАН**

**Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Ленинский проспект, 79.**

Рэдактар В. Сёмуха. Вокладка Г. Клікушына. Мастацкія рэдактары Л. Прагін і А. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Шабалінская. Карэктар А. Берліна.

Здадзена ў набор 28/IV 1972 г. Падп. да друку 27/XI 1972 г. Тыраж 2500 экз. Фармат 70×90$^1/_{32}$. Папера афс. № 1. Ум. друк. арк. 5,11. Ул.-выд. арк. 3,68. Зак. 1313. Цана 34 кап.

**Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.**